



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

26 красавіка 2019 года №17 (1252) 18+


# Як становяцца анёламі, што ратуюць людзей

## Пошукава-выратавальны атрад «Анёл» дапамог знайсці каля 200 чалавек



Вы можаце далучыцца да атрада

старонка 8

Фота забяспечанае Максімам ФЕДАРОВІЧАМ.












Што думаюць ураджэнцы і жыхары рэгіёна пра выбары ва Украіне

старонка 2





Чаму іспанка Анхела Эспіноса Руіс вырашыла стаць пастаянным аўтарам «Рэгіянальнай газеты»

старонка 18



Як ураджэнец Смаргоні камандуе авіябазай

старонкі 20-21


ISSN 1991–7155



Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## Памёр паэт Мар'ян Дукса

**СМАРГОНЬ**




Мар'ян Дукса на Дні беларускага пісьменства ў Рагачове.

Пра тое, што яго не стала 19 красавіка, паведаміла паэтка **Ала Клімянок**.

Па яе словах, апошнім часам паэт хварэў. Летась перанёс мікраінфаркт. Аклімаўся хутка, і раптам два месяцы таму рэзка пачаў слабець.

Мар'ян Дукса – беларускі паэт і празаік. Нарадзіўся 5 красавіка 1943 года на Мядзельшчыне. Большую частку жыцця пражыў у Солах ля Смаргоні.

Пачаў публікаваць вершы ад 1960 года. Выдаў вершаваныя зборнікі «Спатканне» (1967), «Крокі» (1972), «Станцыя» (1974), «Прыгаршчы суніц» (1976), «Забытыя словы» (1979), «Зона супраціўлення» (1982), інш. Аўтар кніг для дзяцей «Зялёны акварыум» (1980) і «Світаюць хвоі» (1987).

Лаўрэат Літаратурнай прэміі Саюза пісьменнікаў Беларусі імя Куляшова (1990) за кнігу паэзіі «Заснежаныя ягады» (1989).

Пісаў пра многае: пра зямлю і чалавека на ёй, пра каханне і адзіноту. Апошнім часам – і на хрысціянскія тэмы.

**Таццяна КАСЬЯН.**

## Ад 22 красавіка ладзяць выставу жывапісу Маіны Талпыгі

**МАЛАДЗЕЧНА**

У дзіцячай школе мастацтваў ад 22 да 30 красавіка праходзіць выстава «Моманты майго настрою» **Маіны Талпыгі**.

Маіна Талпыга – выкладчык дзіцячай мастацкай школы. Сярод яе выпускнікоў **Лізавета Чырвонцава**, **Людміла Валковіч-Борыс**, **Таццяна Беразавец**, якія цяпер працуюць у мастацкіх установах горада.

Маіна Талпыга нарадзілася ў Ваўкавыску Гродзенскай вобласці. Скончыла Віцебскі педагагічны інстытут, мастацка-графічны факультэт. Пасля заканчэння прыехала ў Маладзечна, пачала працаваць у мастацкай школе выкладчыкам жывапісу, малюнка, кампазіцыі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Як будуць працаваць бальніцы і паліклінікі рэгіёна ў выхадныя і святы ў маі

На пачатку мая беларусаў чакаюць святы і шмат выхадных.

Графік працы медустаноў у гэтыя дні апублікавалі на сайце Міністэрства аховы здароўя. Глядзіце, як будуць працаваць медыкі:

**1 мая** – па графіку работы ў святочны дзень
**4 мая** – па графіку работы ў суботні дзень
**5 мая** – па графіку выхаднога дня
**6 мая** – па графіку рабочага дня
**7 мая** – па графіку работы ў святочны дзень
**8 мая** – па графіку рабочага дня
**9 мая** – па графіку работы ў святочны дзень
**10 мая** – па графіку рабочага дня
**11 мая** – па графіку работы ў суботні дзень

Графік работы амбулаторна-паліклінічных арганізацый аховы здароўя, пераліванні крыві, санітарна-эпідэміялагічных, аптэчных, медыцынскай тэхнікі і іншых:

**1 мая** – па графіку работы ў святочны дзень
**4 мая** – па графіку рабочага дня
**5 мая** – на графіку выхаднога дня
**6 мая** – па графіку работы ў суботні дзень
**7 мая** – па графіку работы ў святочны дзень
**8 мая** – па графіку работы ў суботні дзень
**9 мая** – па графіку работы ў святочны дзень;
**10–11 мая** – па графіку рабочага дня.

**Паводле сайта Міністэрства аховы здароўя.**

## «Белтэлекам» падыме цэны на інтэрнэт

«Белтэлекам» збіраецца падняць цэны ў сярэднім на 4%. Падаражанне закране доступ у інтэрнэт і пакеты паслуг электрасувязі.

Павышэнне цэнаў кампанія тлумачыць неабходнасцю мадэрнізацыі абсталявання і паляпшэння якасці паслуг.

Павышэнне не закране тарыфаў на рэгуляваныя паслугі мясцовай і міжгароднай тэлефоннай сувязі, паслугі доступу ў лінейна-кабельным збудаванні, паслугі доступу ў інтэрнэт з гарантаванай паласой прапускання. Апаратар каментуе, што тарыфная палітыка кампаніі «Белтэлекам» накіраваная на максімальнае стрымліванне росту цэнаў.

**Паводле onliner.by**




Уладзімір Зяленскі.

# На выбарах ва Украіне перамог Уладзімір Зяленскі

## Што думаюць пра гэта ўкраінец з Маладзечна, ашмянка з Кіева і палітычны аглядальнік

**МАЛАДЗЕЧНА**
**ВАЛОЖЫН**
**АШМЯНЫ**

**У другім туры прэзідэнцкіх выбараў перамог Уладзімір Зяленскі. Свае галасы за яго аддалі 73,2% украінцаў. За Пятра Парашэнку прагаласавала 25,3%.**

Мы звязаліся з **Ленідам Ласыкабылкам** – украінцам, які жыве ў Маладзечне, і **Галінай Сарочык** – ураджэнкай Ашмянаў, а цяпер жыхаркай Кіева. У субяседнікаў спыталі, як яны ставяцца да перамогі Уладзіміра Зяленскага на прэзідэнцкіх выбарах.

### Украінец з Маладзечна: Зяленскі не зможа супраціўляцца расійскай навале

Леанід Лысакабылка – маладзечанец, старшыня гарадской асветніцка-культурнай суполкі ўкраінцаў «Краяны».

– Я чалавек сталага пакалення і лічу, што Уладзімір Зяленскі – не той, хто патрэбны Украіне. На маю думку, артыст не можа добра разбірацца ў палітыцы і эканоміцы.

На думку спадара Леаніда, падчас прэзідэнцтва Зяленскага Украіна можа развярнуцца да часоў Януковіча.

Новы прэзідэнт не зможа так супраціўляцца расійскай навале, як гэта рабіў Парашэнка, кажа Леанід Лысакабылка.

– Пётр Парашэнка сказаў, што ён сыходзіць з офіса, але не сыходзіць з палітыкі. Паабяцаў стварыць магутную апазіцыю і змагацца за Украіну. Але гэта пакуль толькі пажаданні. Калі ж такую апазіцыю створаць, то яна будзе змагацца з прэзідэнтам не на жыццё, а на смерць, – лічыць мой субяседнік.

На яго думку, украінскі народ стаміўся ад беднасці і вайны. Таму многія галасавалі нават не за Зяленскага, а супраць Парашэнкі. Украінцы чакаюць, што з новым прэзідэнтам ім стане лягчэй, але наўрад ці, кажа спадар Леанід.

Адзначае, што вельмі ўразілі словы Зялянскага: «Бачыце, гэта магчыма!»

– Уладзімір Зяленскі звяртаўся тут да ўсіх краін былога СССР, маўляў, паглядзіце: справядлівыя і дэмакратычныя выбары магчымыя. Але я ўбачыў тут зварот, перш за ўсё, да Беларусі, – падсумаваў субяседнік.

### Жыхарка Кіева, што родам з Ашмянаў: мы, як большасць украінцаў, за Зяленскага

**Галіна Сарочык** – ураджэнка Ашмянаў. У 1990-х гадах працавала доктарам-неанатолагам у радзільным аддзяленні у Валожыне. Пазней была загадчыцай валожынскай паліклінікі.

Ад 2011 года жыве ў Кіеве. Разам з дачкой **Юляй** трымалі тут беларускую кавярню.

У 2014 годзе сям'я Галіны Сарочык падтрымала майдан. Насіла туды ежу, аказвала медыцынскую дапамогу параненым.

> **– Украінцы – вольналюбівыя людзі. Мы таксама вольналюбівыя, таму і дапамагалі майданаўцам,**

– сказала Галіна Сарочык ў інтэрв'ю «Рэгіянальнай газеце» ў лістападзе 2017.

Сёння жанчына – актывістка беларускага руху ў Кіеве. У 2017 годзе разам з аднадумцамі ва ўкраінскай сталіцы стварыла суполку беларусаў «Сябры».

Як успрынялі Галіна і яе аднадумцы ў Кіеве перамогу Уладзіміра Зяленскага?

– Я і мае сябры-беларусы разам з большасцю ўкраінцаў, з тымі 73 працэнтамі. Мы падтрымліваем іх імкненне да справядлівасці, разам з імі выступаем супраць брахні, татальнай карупцыі ва ўсіх сферах, збядненння народа. Хочацца пажадаць прэзідэнту Уладзіміру Аляксандравічу Зяленскаму і яго маладой камандзе сілы і мужнасці ў іх барацьбе з сістэмай, – адказала субяседніца.

### Незалежны палітычны аглядальнік пра тое, што чакаць Беларусі ад перамогі Зяленскага

У беларускага кіраўніцтва з былым украінскім прэзідэнтам Пятром Парашэнкам былі напрацаваныя кантакты ў палітыцы і эканоміцы, кажа незалежны палітычны аглядальнік, кіраўнік аналітычных праектаў БелаПАН, журналіст **Аляксандр Класкоўскі**. З прыходам Зяленскага з многімі ўплывовымі асобамі Беларусь мусіць дамаўляцца па-новаму. А гэта і час, і выдаткі.

На думку Класкоўскага, верагодныя непаразуменні на глебе бізнес-інтарэсаў. Але ў цэлым, беларуска-ўкраінскія сувязі добра наладжаныя і ўзаемавыгадныя. Таму вялікіх перамен у эканамічных адносінах чакаць не варта.

– Што да палітыкі, ёсць важны момант. У кантэксце расійскай пагрозы любому ўкраінскаму прэзідэнту лепш мець добрыя адносіны з Мінскам. А значыць, не кідаць камяні ў гарод Лукашэнкі, які пакуль трымае абяцанне, што з беларускай зямлі ўдару па Украіне не будзе. Таксама і беларускае кіраўніцтва зацікаўленае не згубіць украінскі вектар, які дапамагае ў замежнай палітыцы, – лічыць Аляксандр Класкоўскі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ



Фота hayatestate.com.

Вось такая віла ў Ніжняй Саксоніі каштуе 85 тысяч еўра.

# Колькі немцы трацяць на ежу, адзенне і ЖКГ і колькі ў іх застаецца

**Колькі ў сярэднім грошай на месяц выдаткоўвае адна нямецкая сям'я і на што?**

Ёсць два статыстычныя даследаванні, якія даюць адказ на гэта пытанне. Адно з іх – даследаванне даходаў і выдаткаў – публікуецца раз у пяць гадоў. Іншае – бягучыя эканамічныя рахункі – штогадовае.

Федэральнае статыстычнае ведамства Германіі аб структуры расходаў немцаў летась.

### Больш за ўсё сродкаў трацяць на жыллё

Самы буйны артыкул выдаткаў – аплата жылля і жыллёва-камунальных паслуг. На гэта сыходзіць больш за трацiну ўсіх спажывецкіх расходаў. А ў цэлым гэтыя выдаткі складаюць у ФРГ у сярэднім 2517 еўра ў месяц. Абавязковае страхаванне, унёскі па прыватных страхоўках і працэнты па крэдытах у гэту суму не ўваходзяць. Не ўлічваецца сюды і тое, што жыхары краіны адкладаюць на чорны дзень.

Кошт электрычнасці залежыць ад пастаўшчыка. У Германіі іх больш за паўтары тысячы. У залежнасці ад колькасці чалавек у сям'і налічваюць гадавую аплату і сярэднюю за месяц. Для сям'і з трох чалавек аплата за электрычнасць на месяц складае ад 80 еўра. За мабільны тэлефон немцы аддаюць ад 10 да 50 еўра на месяц.

Акрамя штомесячных выплат ёсць яшчэ квартальныя і гадавыя. Напрыклад, раз на квартал плацяць збор за радыё і тэлебачанне – 54 еўра. За вываз смецця разлічваюцца раз на год. Аплата ў розных землях адрозніваецца. Але ў сярэднім – у межах ста еўра.

**Каб набыць сваё жыллё ў цэнтры, трэба аддаць ад двух да пяці тысяч еўра за квадратны метр. На ўскраіне – каля трох тысяч.**

Наймаць кватэру ў цэнтры каштуе ад 500 да 1000 еўра, далей ад цэнтра можна наняць і за трыста.

### Ежа, напоі, тытунь, транспарт...

Другое месца, пасля выдаткаў на жыллё і камунальныя паслугі, падзялілі адразу два артыкулы выдаткаў. Ежа, напоі, тытунёвыя вырабы – у адной групе. Транспарт, уключаючы асабістыя аўтамашыны, – у другой.

На 350 еўра сыходзіць на кожны з гэтых двух артыкулаў выдаткаў. На ежу немцы аддаюць каля 14 працэнтаў усіх спажывецкіх выдаткаў. Сціплыя расходы тых жыхароў Германіі, хто любіць паесці і папіць, тлумачацца тым, што ўзровень цэнаў на харчовыя тавары ў Германіі – адзін з самых нізкіх у Еўрапейскім саюзе.

Літр малака ў нямецкіх крамах каштуе ад паловы да аднаго еўра, хлеб – адзін-два еўра, 12 яек – да двух еўра, курыца – пяць-восем еўра, паўтаралітровая бутэлька вады – еўра.

Што да транспарту, праязны на месяц каштуе ад 60 да 100 еўра, у залежнасці ад таго, у якую зону краіны трэба ехаць.

**Білет на аўтобус у адзін бок – два еўра, а білет на цэлы дзень ва ўсіх накірунках – шэсць еўра. За 50 еўра можна даехаць на другі канец Германіі.**

Раз на год аўтаўладальнікі плацяць страхоўку на аўтамабіль ад трохсот да тысячы еўра. Канкрэтная сума залежыць ад мадэлі машыны. Плюс падатак на аўтамабіль ад дзевяноста да трохсот еўра. Тэхагляд абыходзіцца прыкладна ў 300-500 еўра. Частата яго правядзення залежыць ад канкрэтнай маркі і мадэлі машыны.

### Адзенне і абутак – не самае важнае

Трэцяе месца па велічыні выдаткаў займае вольны час. На розныя забавы, культурныя мерапрыемствы, захапленні немцы марнуюць каля 260 еўра ў месяц. Сюды не ўваходзіць наведванне бараў, рэстаранаў і іншых піцейных устаноў.

На піва і кулінарныя забавы немцы аддаюць каля 146 еўра ў месяц. Крыху менш – на бытавую тэхніку.

Адзенне і абутак – відавочна, не прыярытэт. У сярэднім кожная сям'я траціць на іх каля двухсот еўра ў месяц. Напрыклад, фірменныя джынсы можна тут набыць за 60-90 еўра, красоўкі – ад 65.

### Колькі свабодных грошай застаецца ў немцаў

Самы маленькі артыкул нямецкіх выдаткаў – адукацыя. На яе на месяц сыходзіць 18 еўра. Гэта менш за адзін працэнт бюджэту. Бо навучанне і ў школах, і ў вышэйшых навучальных установах у Германіі, за рэдкім выключэннем, бясплатнае.

Колькі ж застаецца пасля ўсіх гэтых трат у сярэднестатыстычнай нямецкай сям'і? Даходы, уключаючы выплаты па банкаўскіх укладах і ад паступленняў сродкаў ад арэнды нерухомасці, склалі прыкладна 5400 еўра.

У тых, хто жыве толькі на заробак, паступленні значна меншыя – 3400 еўра.

**Гэта значыць, свабодных грошай у нямецкай сям'і застаецца пасля ўсіх выплат ад 880 да 2900 еўра.**

Ксенія ДУРОВІЧ.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**2 600**

СТОЛЬКІ ЧАЛАВЕК У БЕЛАРУСІ Ў 2018 ГОДЗЕ АТРЫМЛІВАЛІ ЗАРОБАК ВЫШЭЙШЫ ЗА 10 000 РУБЛЁЎ

ПАВОДЛЕ БЕЛСТАТ.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 18.04 | 25.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0953 | **2.0944** |
| Еўра | 2.3708 | **2.3495** |
| Злоты, 10 | 5.5438 | **5.4764** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2774 | **3.2757** |
| Грыўня, 100 | 7.8519 | **7.8805** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 17.04 | 24.04 |
| Еўра | 2.3570/2.3800 | **2.3350/2.3570** |
| Долар ЗША | 2.0850/2.1050 | **2.0850/2.1050** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| ПРАДУКТЫ | 17.04 | 24.04 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,99 | **18,99** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,21 | **7,20** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,20 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **3,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | **1,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 2,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Баклажан, 1 кг | 4,90 | **4,99** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,90 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 2,70 | **2,70** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 3,80 | **–** |
| Морква, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Памідоры, 1 кг | 5,50 | **5,90** |
| Перац, 1 кг | 6,80 | **6,80** |
| Радыс, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Салата, 100 г | 1,20 | **1,20** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,40 | **1,50** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **3,80** |
| Бананы, 1 кг | 2,30 | **2,95** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **4,90** |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | **2,90** |
| Ківі, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Лімоны, 1 кг | 2,90 | **3,80** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,40** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | 25,00 | **25,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Завяршылі расследаванне смяротнага ДТЗ з маршруткай

ВАЛОЖЫН

Расследаванне аварыі з удзелам маршруткі Мінск-Гродна на Валожыншчыне, у якой два чалавекі загінулі, яшчэ 13 траўмаваныя, завяршылі.

Пра гэта карэспандэнту паведаміла прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Крымінальную справу завялі ў дачыненні да 46-гадовага кіроўцы-прадпрымальніка з Гродна.

Летась у кастрычніку ён вёз пасажыраў з Мінска ў Гродна і на 74-м кіламетры трасы М6 пад Валожынам не ўлічыў дарожную абстаноўку і наехаў на раздзяляльную бетонную агароджу.

Два чалавекі загінулі, 13 пацярпелі, дзевяць з іх, у тым ліку двое малалетніх, атрымалі цяжкія траўмы.

На думку следства, асноўная прычына ДТЗ – значнае перавышэнне хуткасці. Да матэрыялаў крымінальнай справы далучаныя звесткі, якія характарызуюць асобу абвінавачанага.

Вядома, што ад 2007 да 2018 года ён 90 разоў прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці, пры гэтым за парушэнні хуткаснага рэжыму двойчы (у 2011 і 2012 гадах) быў пазбаўлены правоў.

Абвінавачаны знаходзіцца пад вартай. Віну прызнае.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Дзяржкантроль праверыў Мядзельскую ЖКГ

МЯДЗЕЛ

Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю праверыў Мядзельскую ЖКГ. Устанавілі шмат парушэнняў.

На прадпрыемстве парушалі бюджэтнае заканадаўства, правілы бухуліку, заканадаўства ў галіне будаўніцтва.

Тут не выканалі пяць з дзесяці даведзеных паказчыкаў па праграмах «Мадэрнізацыя і павышэнне эфектыўнасці цеплазабеспячэння» і «Чыстая вада».

Звыш ста тысяч рублёў дзяржаўных сродкаў прадпрыемства выкарыстала не па мэтавым прызначэнні або з парушэннем патрабаванняў заканадаўства.

Больш за чатыры гады не запатрабаваныя праектна-каштарысныя дакументы. На іх выраб выдаткавалі каля 90 000 рублёў.

Не вырашылі, як выкарыстоўваць няпрофільныя активы прадпрыемства.

Страты па іх змесце (база адпачынку ў к.п. Нарач, летні тэатр на набярэжнай у Мядзеле і інш.) за 2018 год перавысілі 30 тысяч рублёў.

Па выніках праверкі ў бюджэт вярнулі звыш 60 тысяч рублёў. Разглядаюць пытанне аб прыцягненні Мядзельскай ЖКГ і яе службовых асоб за парушэнні заканадаўства да адміністрацыйнай адказнасці.

**Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю.**

# Прыставіў арбалет да галавы маці і націснуў на курок

## Жыхарку Маладзечанскага раёна ледзь не забіў сын

МАЛАДЗЕЧНА

**70-гадовая пенсіянерка толькі праз пяць дзён пасля здарэння вырашылася патэлефанаваць і пра ўсё паведаміць.**

Пра гэта расказаў старшы ўчастковы інспектар міліцыі Маладзечанскага РАУС маёр **Сяргей Амінаў**.

Увечары 50-гадовы сын вярнуўся з працы п'яны. Сварку пачаў літаральна з парога – разлквалі непаваротлівасць маці ў правядзенні работ на прысядзібным участку.

**Лаянка перарасла ў бойку. Біў рукамі і нагамі, без разбору, па розных частках цела.**

У давяршэнне мужчына дастаў арбалет, пагражаючы, прыставіў яго да галавы маці і націснуў на курок. Перапалоханая жанчына з цяжкасцю зразумела, што зброя


Фота topwar.ru

Спалоханая жанчына не адразу зразумела, што арбалет не быў зараджаны.

не была зараджаная.

Знайшоўшы момант, пенсіянерка выбегла з хаты.

**Некалькі дзён яна начавала ва ўласнай адрыне і ў знаёмых, баючыся вярнуцца дадому.**

Цяпер фігурант затрыманы і знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання Маладзечанскага РАУС. У яго дзеяннях угледжваюцца прыкметы складу злачынства, прадугледжанага артыкулам 186 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (пагроза забойствам).

Як распавёў Сяргей Амінаў, у затрыманага канфіскаваныя два арбалеты, абрэз паляўнічай стрэльбы і патроны.

Ён пакуль адмаўляецца тлумачыць прычыны таго, што адбылося, і расказваць пра абставіны. Раней трывожных сігналаў з гэтай сям'і не паступала.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# Бяспечнае карыстанне газам у быце




**У наш час газ з'яўляецца незаменным памочнікам у кожным доме. Аднак варта ведаць, што гэта не толькі зручны, эканамічны від паліва, але пры няправільнай эксплуатацыі яшчэ і вельмі небяспечны.**

Штогод у Беларусі адбываюцца няшчасныя выпадкі, у выніку якіх ёсць пацярпелыя, часам са смяротным зыходам. Трагічная іронія ў тым, што, каб жыхары прытрымліваліся самых элементарных правілаў, выкладзеных ў інструкцыі па эксплуатацыі газавага абсталявання і ў Правілах карыстання газам у быце, гэта дапамагло б пазбегнуць падобных здарэнняў і няшчасных выпадкаў.

Пры спальванні газавага паліва, калі недастаткова паступае кіслароду (закрытая фортачка, няспраўная вентыляцыя), то з прычыны няпоўнага згарання выдзяляецца чад (СО), які пры працы газавага ацяпляльнага абсталявання сыходзіць у спецыяльна абсталяваныя дымавыя каналы. У прадуктах згарання ўтрымліваецца вадзяная пара, якая кандэнсуецца на халодных паверхнях коміна. Пры няспраўнасці дымавых каналаў прадукты няпоўнага згарання могуць трапляць у памяшканне. У выніку можа адбыцца атручэнне чадам.

Чад у адрозненне ад бытавога газу не мае паху і з'яўляецца моцнадзейным ядам.

**Як выявіць чад? Для гэтага выкарыстоўваюцца спецыяльныя дэтэктары чаду.**

Усталюйце **дэтэктары чаду (датчык СО)** на кожным паверсе вашага дома, паблізу спальных пакояў для своечасовага папярэджання аб небяспецы.

Звяртаем вашу ўвагу, што **пажарныя апавяшчальнікі (датчыкі дыму), датчыкі (прыборы) выяўлення ўцечкі бытавога газу чад не выяўляюць.**

Нагадваем, што наяўнасць у паветры ўсяго 1% чаду – смяротная канцэнтрацыя для чалавека.

Сярод усіх жыццёвых каштоўнасцяў, несумненна, самай важнай з'яўляецца само жыццё. Задача кожнага чалавека – берагчы жыццё і здароўе сваё і сваіх блізкіх.

**ЗВЯРТАЕМ ВАШУ УВАГУ**, што згодна з ТКП 629-2018 «ТЭХНІЧНАЯ ЭКСПЛУАТАЦЫЯ ДЫМАВЫХ І ВЕНТЫЛЯЦЫЙНЫХ КАНАЛАЎ ЖЫЛЫХ ДАМОЎ»:

• Перыядычныя (паўторныя) праверкі і прачысткі дымавых і вентыляцыйных каналаў у жылых дамах (будынках) (жылых і (або) нежылых памяшканнях), якія належаць грамадзянам на праве ўласнасці, **могуць праводзіцца**:

- для жылых дамоў і будынкаў інтэрнатаў (жылых і (або) нежылых памяшканняў), абсталяваных праточнымі і ёмістнымі газавымі воданагравальнікамі, ацяпляльнымі газавымі апаратамі з вадзяным контурам, катламі незалежна ад іх канструкцыі – **толькі спецыялізаванымі арганізацыямі** па заяўках уласнікаў жылых дамоў (жылых і (або) нежылых памяшканняў) і (або) іх прадстаўнікоў з афармленнем акта ўстаноўленай формы.

А для жылых дамоў і будынкаў інтэрнатаў (жылых і (або) нежылых памяшканняў), абсталяваных пячным ацяпленнем, а таксама абсталяваных газавыкарыстальным абсталяваннем з герметычнымі (закрытымі) камерамі згарання і індывідуальнымі гарызантальнымі дымавымі каналамі, якія адводзяць прадукты згарання газу непасрэдна праз вонкавую сцяну без наступнага злучэння з дымавымі трубамі – **уласнікамі жылых дамоў**, будынкаў інтэрнатаў (жылых і (або) нежылых памяшканняў) і (або) іх прадстаўнікамі, якія прайшлі спецыяльнае навучанне і дапушчаныя па выніках навучання да выканання ўказаных работ, або спецыялізаванымі арганізацыямі.

• Усе жылыя і (або) нежылыя памяшканні жылых дамоў (будынкаў), у якіх устаноўлены газавыя воданагравальнікі і ацяпляльныя катлы, **незалежна ад іх канструкцыі**, павінны быць абсталяваныя датчыкамі чаду (аўтаматычнымі газасігналізатарамі ГСА).

Датчыкі чаду (ГСА) павінны быць устаноўленыя на адлегласці ў адпаведнасці з рэкамендацыямі па ўстаноўцы, якія ўказаныя ў кіраўніцтве па эксплуатацыі, але не больш за 4 метры ад газавыкарыстальнага абсталявання. Кантроль за працай датчыкаў чаду (ГСА) ажыццяўляецца эксплуатантам. Устаноўка датчыкаў чаду праводзіцца ўласнікамі (арандатарамі) жылых дамоў (жылых і (або) нежылых памяшканняў) і (або) іх прадстаўнікамі (эксплуатантам). Без наяўнасці датчыкаў чаду або выкарыстання іх пасля заканчэння тэрмінаў эксплуатацыі карыстанне газавыкарыстальным абсталяваннем **не дапускаецца**.

**За парушэнне «Правілаў карыстання газам у быце»**, пры адсутнасці адпаведных актаў праверак дымавых і вентыляцыйных каналаў газазабеспячэнская арганізацыя мае права адключыць падачу газу спажыўцу.

Адказнасць за спраўны стан вентыляцыйных і дымавых каналаў ад газавых катлоў і газавых воданагравальнікаў, парушэнні патрабаванняў бяспекі пры эксплуатацыі бытавога газавыкарыстальнага абсталявання ўскладаецца на наймальніка (уласніка) жылых памяшканняў і дамоў.

Паважаныя абаненты! Не падвяргайце сваё жыццё і жыццё сваіх родных небяспецы.

**ВУ «Маладзечнагаз».**

УНП 100008077

# Што хаваюць старыя надмагіллі



**Дрэва без галінак, лілея, жырандоль для шасці свечак, крыж, зорка Давіда… Шмат сімвалаў мы яшчэ можам пабачыць сёння на старых помніках на Вілейшчыне.**

**Піша Аксана ЯРАШОНАК.**

Адкуль такая разнастайнасць? Вілейшчына – край, у якім здаўна суіснавалі іудзеі, мусульмане, каталікі і праваслаўныя. У кожнай з канфесій – свая пахавальная культура.

### У чым цікавасць яўрэйскіх і мусульманскіх пахаванняў

Традыцыя ставіць камень на месцы пахавання ідзе з глыбокай старажытнасці, кажа дырэктар Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**. Першыя помнікі – гэта расколатыя валуны. Іх абчэсвалі і аздаблялі надпісамі і знакамі-сімваламі.

На яўрэйскіх могілках у Даўгінаве мацэвы – магілы – знаходзяцца за помнікам. На камянях – цытаты з Торы. Па надпісах на помніку можна прасачыць ледзь не ўвесь радавод. Тут пазначана, чыя дачка, унучка, праўнучка і прапраўнучка спачывае пад каменем.

> **Некаторыя камяні-помнікі трохвугольныя, у выглядзе даху. Яны сімвалізуюць апошні прытулак. Некаторыя – авальныя. Палова такога помніка – у зямлі, палова – над зямлёй. Нібы зямное і нябеснае жыццё чалавека.**

На святой зямлі, у Палесціне, яўрэяў хавалі ў пячорах. Пакідалі месца, куды магла падняцца душа. Падабенства такіх пячор у паменшаным выглядзе сёння можна пабачыць на старых могілках у Даўгінаве.

Пасля Другой сусветнай вайны па ўсіх яўрэйскіх традыцыях іудзеяў ужо амаль не хавалі. Аднак на вілейскіх могілках, што ля хлебазавода, ёсць пахаванне, датаванае 1969 годам.

Так пра гэта пахаванне ўспамінала адна з жыхарак Вілейкі:

– Раней цяперашняя вуліца Першамайская цалкам была яўрэйскай. Памятаю, як памерла адна жанчына з той вуліцы. Было вельмі нязвыкла, што яе на могілкі неслі без труны, на руках, не лежачы, а седзячы, прыкрытую белай прасцінай.

> **На яўрэйскіх могілках заўсёды было памяшканне, дзе мылі рукі, калі прыходзілі на могілкі і калі сыходзілі з іх.**

Мусульманскія могілкі ёсць на Вілейшчыне ў вёсцы Камена. Пахаванні вельмі старыя, шмат дзе зробленыя адно на адным. На камянях захаваўся мусульманскі сімвал – паўмесяц і надпісы, зробленыя арабскім пісьмом – вяззю. Помнікі падпісвалі справа налева і знізу ўверх.

Былі сімвалы, уласцівыя для ўсіх канфесій. Напрыклад, калі паміраў чалавек, які не пакінуў пасля сябе нашчадкаў, на помніку малявалі пераломленае дрэва ці дрэва без галінак.



### Помнік-дрэва і містыка

Па словах Надзеі Аўдзей, традыцыя размяшчаць на помніках фотаздымкі з'явілася ў 1950-я гады. Да гэтага часу здымкаў на помніках не было. Лічылі, што душа чалавека не мае аблічча.

> **– Цяпер мы замаўляем помнікі ў спецыялістаў. Раней таксама былі такія майстры, – кажа Надзея Аўдзей.**

І прыгадвае, што ёй распавёў адзін вілейскі старажыл **Аляксандр Маліноўскі**. У 1940-1945 гадах у адной з хат на вуліцы Савецкай кватараваў чалавек. Ён рабіў помнікі. Былі замовы з Вілейшчыны і суседніх раёнаў.

> **Помнікі майстар рабіў у выглядзе дрэва. Некалькі з іх захавалася на могілках Вілейшчыны.**

У якасці рэкламы на вуліцы, каля двара, майстар паставіў помнік. Калі пасля 1945 ён з'ехаў з горада, жанчына-суседка закапала помнік-рэкламу. Кажуць, пасля гэтага ў сям'і пачаліся трагедыя за трагедыяй. І жанчына пры жыцці страціла ўсіх сваіх родных.

Разам з Надзеяй ходзім па гарадскіх могілках у Вілейцы. Зусім нядаўнія пахаванні тут чаргуюцца са стагадовымі, а то і ранейшымі.

Вось магіла 1902 года. Помнік – вязіны крыж, зроблены з дзвюх чыгунных рэек.

> **– Цікавае пахаванне, – кажа мая суразмоўца. – У Вілейцы чыгунку праклалі ў 1901. Верагодна, тут пахаваны нейкі чыгуначнік.**

На іншым помніку чытаем: «Святар Антон Кірылавіч Турцэвіч. 1824-1905». Тут жа – выява Евангелля і аздабленне візантыйскімі знакамі.

Сустракаюцца пахаванні, зробленыя за польскім часам, і магілы часоў Другой сусветнай. Хапае і помнікаў, літаральна ўрослых у зямлю. І надпісаў на іх ужо не расчытаць. А так хацелася б. •













# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ГАЗ-51, бартавы. Т. (8-029) 6915981, (8-0176) 732921 тэлефанаваць пасля 18.00.*

• Матацыкл Мінск ММЗ 3112; крыло пярэдняе ГАЗ 5312. Т. (8-029) 5076312.

• Нісан-Альмера, Прымера, 1996 г.в., 2,0 дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Опель-Астра, 1995 г.в., 1,7 дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Опель-Астра, 1997 г.в., 1,6 газ-бензін, універсал. Т. (8-029) 6232553.*

• Пежо 605, 1990 г.в., 2,1 дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Форд-Сіера, 2,0Б, 1987 г.в., белы, 1750 руб., торг. Т. (8-029) 8658044.

• **АЎТАЗАПЧАСТКІ** б/у з Бельгіі, у наяўнасці і пад заказ. Смаргонскі раён, в. Светач, 3. ІП Казакевіч А.В. УНП 591813704. Т. (8-044) 5431954, (8-029) 8338286.*

• Аўтазапчасткі Мазда 626, 1994 г.в., 2,0Д. Т. (8-029) 7792477.

• Аўтазапчасткі Форд-Эскорд, 1994 г.в., 1,8Д. Т. (8-029) 7792477.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 1563334.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку, якая патрабуе тэрміновага продажу. Т. (8-044) 4506876.*

• Любое аўто на ходу для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 3 паверх. Т. (8-029) 6405133.*

• 2-пакаёвая кватэра ў а.г. Любань Вілейскага раёна. Тэрмінова! 22 000 рублёў.Т. (8-0336) 6314302.

• 2-пакаёвая кватэра ў Белаазёрску Брэсцкай вобласці. Нядорага. Т. (8-029) 9611352.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы з еўрарамонтам альбо памяняю на Мінск. Т. (8-025) 5296374.*

• 3-пакаёвая кватэра, раён «Зеніт», 5 паверх, годны рамонт. Магчымы продаж часткова з мэбляй. Т. (8-029) 5729911.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, м-н Усходні. Т. (8-044) 5332177.*

• Гараж ГБК 1, яма, падвал, абшыты вагонкай. Т. (8-029) 5729941.*

• Дача ў СТ «Жураўлік» каля в. Семернікі Маладзечанскага раёна. Т. Вэлком (8-029) 105-10-32.*

• Дача ў СТ «Сонечны Бераг», 6 км ад Смаргоні, 47,6 кв. м, 2 паверхі, участак 0,1000 га. Гаспадарчыя пабудовы, калодзеж, лес за ўчасткам. Недалёка р. Вілія. Т. (8-029) 3732743, (8-029) 6929159.

• Дом жылы у в.Нясцёркі Вілейскага раёна побач з вадасховішчам, 500 м, праз 200 м – лес, 3 хлеўчыкі, склеп, калодзеж, гараж. Т. (8-029) 6915981, (8-0176) 732921 тэлефанаваць пасля 18.00.*

• Дом у в. Засценкі Вілейскага раёна, 4 000 рублёў. Т. (8-033) 6181069.*

• Дом у в. Засценкі ў Вілейскім раёне, Іжанскі с/с. Цана дагаворная. Т. (8-033) 3513656.

• Дом у вёсцы, частковыя выгоды, гараж, сад, 15 сотак. Т. МТС (8-029) 7632306, (8-0176) 723235.*

• Дом у Вілейцы Мінскай вобласці. Побач чыгунка і аўтавакзал, школа, недалёка гімназія, садкі, Еўраопт, вадасховішча. Т. (8-01771) 22991, (8-033) 3133124.

• Дом у пас. Партызанскі Вілейскага раёна, 60,2 кв.м. Пячное ацяпленне, 25 сотак, газ, пліта, тэлефон, калодзеж, гаспадарчыя пабудовы, побач лес. 10 500 рублёў. Т. (8-029) 2600842.

• Дом утульны ў вёсцы Маркава Маладзечанскага раёна. Т. (8-029) 6725820 Анатоль.

• Кватэра ў а.г. Солы, 45 кв. м, гараж, зямля. Т. (8-029) 5218140.

• Кватэра ў Вілейцы ў 2-пакаёвым блочным доме з усімі выгодамі, агульнай плошчай 78 кв. м. Т. (8-029) 7667446.

• Кватэра ў цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 6051372.*

• Паўдома ў Маладзечне, канапа, газавы балон, торфабрыкет. Т. МТС (8-029) 7060485.*

• Садовы домік у Красненскім с/с; СТ «Агеньчык-перамога». Т. (8-029) 3895935.*

• Участак дачны, 10 сотак, у в. Кардон Вілейскага раёна, з пабудовамі. Т. (8-044) 5148342.

### МЯНЯЮ

• 2-пакаёвую кватэру па вул. Кастрычніцкай на дом. Вілейка. Т. (8-029) 2375721.*

### ЗДАМ

• Гараж у Вілейцы ў ГБК-2, яма. Т. (8-029) 5031298.

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• **АРЭНДА МІНІ-ЭКСКАВАТАРА, ЭКСКАВАТАРА, ПАГРУЗЧЫКА. УП «ТГВБУД» УНП 692024702 Т. ВЭЛКОМ (8-029) 9115605.***



• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ** любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• «Камп’ютары і спадарожнікавыя антэны». Абслугоўванне. Рамонт. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750 Т. (8-033) 3494488.*

• **АЎТАНОМНЫЯ КАНАЛІЗАЦЫІ. СЕПТЫКІ. УП «ТГВБУД» УНП 692024702 Т. ВЭЛКОМ (8-029) 9115605.***

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• **ВОДАПРАВОД. АЦЯПЛЕННЕ. КАНАЛІЗАЦЫЯ. УП «ТГВБУД» УНП 692024702 Т. ВЭЛКОМ (8-029) 9115605.***

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• **ГАЗ. ПРАЕКТАВАННЕ І БУДАЎНІЦТВА. УП «ТГВБУД» УНП 692024702 Т. ВЭЛКОМ (8-029) 9115605.***

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп’ютараў, ноўтбукаў, маніtoраў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Усё для даху і агароджы. Металапракат. Металачарапіца. Профнасціл. Металаштыкетнік. Труба профільная і г. д. Дахавыя (кровельные) работы. Замер. Дастаўка. ІП Смолка М. В. УНП 691185021. Т. (8-029) 1247481.*

• Уцяпленне і аддзелка фасада дома. ІП Гарлукевіч П.П. УНП 692021956. Т. (8-029) 8771721.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Металачарапіца, металапрофіль, гібкая чарапіца, вадасцёк, сайдынг. ІП Гаварко А. У. УНП 691403669. Т. (8-029) 7095664, (8-029) 1684125.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Прычэп да мотаблока. Т.(8-033) 3723298, (8-029) 6843087.*

• Трактар Т-25, касілка, запчасткі б/у. Т. (8-029) 7892846.

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



• Антэна спадарожнікавая. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.*

**Мэбля**

• Стол кухонны з масіву бярозы. Т. (8-029)5628537.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Домікі з пчоласем’ямі. Т. (8-044) 5395697.*

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты: бройлерныя КОББ-500, кураняты-нясушкі, цасаркі. Дастаўка. Т. МТС (8-033) 6908397, Вэлком (8-029) 6938397.*

• Карова высокаўдойная, 7 гадоў, цельная. Т. (8-033) 6029363.*

**Іншае**

• Гандлёвае абсталяванне: горка прысценная сярэднетэмпературная пад вынасны холад з агрэгатам, лары маразільныя з гнутым шклом; піўная ўстаноўка з ахаладжальнікам на два краны, вітрына кілбасная 3 м, б/у. ІП Заенчкоўскі А.С. УНП 600370490 Т. (8-029) 6278076.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**

• **ЖК-ТЭЛЕВІЗАР**, ЖК-манітор, ноўтбук, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2572438.

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Літаратуру на польскай або іншых заходнеславянскіх мовах. Т. (8-029) 5019550, (8-025) 9228516.*



### АДДАМ

• Аддам шчанят-дварнякоў дарма. Т. Вэлком (8-029) 3748470, МТС (8-029) 5364272.

### ЗГУБЛЕНА

• Згубленыя дакументы (партаманет) на імя Смолкі М.В. прашу вярнуць за ўзнагароду. Т. (8-029) 1247481.*

### ІНШАЕ

• Ёсць прапіска. Т. (8-029) 5787964.

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Арганізацыі ў Маладзечне патрабуецца вадзіцель-міжнароднік. Маршрут: Еўропа – РФ. Высокая і своечасовая аплата працы. ПГУП «Масіс Групп» УНП 690693934 Т. (8-029) 5665809.*

• Слесар МЗР, токар. Т. (8-029) 5092609.*

• Сядзелка без пражывання з частковай (пачасавой) занятасцю. Т. Вэлком (8-044) 5976230.

### Беларусь 1

**6.25** «Існасць».
**6.50, 21.45** Х/ф **«ПТИЦА В КЛЕТКЕ».**
**8.30** «Кулинарная дипломатия».
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Маршрут построен». Воложин.
**9.50** «Здоровье».
**10.40** «Дача» [СТ].
**11.20, 12.10** Х/ф **«ДЕДУШКА МОЕЙ МЕЧТЫ».**
**13.30** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи. Заключительный выпуск.
**15.15** «Краіна».
**15.45** Х/ф **«ВОПРЕКИ СУДЬБЕ».**
**20.00** «Макаёнка, 9». Субботнее шоу.
**21.00** «Панорама».
**1.10** Т/с **«СВАТЫ 5».**
**2.00** «День спорта».

### Беларусь 2

**7.00** Т/с **«ЦЕНТРАЛЬНАЯ БОЛЬНИЦА».**
**8.35, 21.55** «Телебарометр».
**8.50** Х/ф **«КОРПОРАЦИЯ МОНСТРОВ».**
**10.15** Премьера. «Погоня за вкусом». Кулинарное трэвел-шоу.
**11.10** «Кто я?».
**11.30** «Копейка в копейку».
**12.05** «Камень, ножницы, бумага».
**12.40** «Муж напрокат». Реалити-шоу.
**13.40** Х/ф **«ЛЮБИТ НЕ ЛЮБИТ».**
**15.05** «Папа попал». Реалити-шоу.
**17.00** «До свидания». Реалити-шоу.
**17.55** Х/ф **«НОВЫЙ ЧЕЛОВЕК-ПАУК: ВЫСОКОЕ НАПРЯЖЕНИЕ».**
**20.10** Х/ф **«Я – ЧЕТВЕРТЫЙ».**
**22.00** КЕНО.
**22.10** Х/ф **«САЛЮТ-7».**

### Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».
**8.00, 15.05, 20.15** Навіны культуры.
**8.20, 20.30** «Гэты дзень».
**8.25** «Ваенна-палявы раман». Мастацкі фільм [СТ].
**10.00** «Жывая культура». Мясцовы песенны стыль выканання традыцыйных абрадавых і пазаабрадавых твораў аўтэнтычным фальклорным калектывам «Палескія напевы» (в.Новае Палессе, Лельчыцкі раён, Гомельская вобласць).
**10.25** «Беларуская кухня». Квас з юнамі, хуткі хлеб.
**10.50** «Спявае Беларусь». Фальклорнае песеннае шоу.
**11.40** «МУР». Шматсерыйны мастацкі фільм. Частка пятая «1945», заключная.
**14.40** «Навукаманія».
**15.25** «Каханне з прывілеямі». Мастацкі фільм.
**17.35** «Любоў Палішчук. Жорсткае танга». Дакументальны фільм.
**18.15** «Па законах ваеннага часу». Мастацкі фільм.
**19.30** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць – пісьменніца Тамара Бунта.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Зялёны фургон». Мастацкі фільм [СТ].
**23.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці тэатральнага рэжысёра, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Уладзіміра Маланкіна.

### ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».
**7.10** «Играй, гармонь любимая!».
**8.00** Премьера. «Лариса Лужина. Незамужние дольше живут».
**9.10** Премьера ОНТ: «Хит на завтрак».
**9.50** Х/ф **«КУБАНСКИЕ КАЗАКИ».**
**11.40** «Леонид Харитонов. Падение звезды».
**12.35** Х/ф **«СОЛДАТ ИВАН БРОВКИН».**
**14.15** Х/ф **«ИВАН БРОВКИН НА ЦЕЛИНЕ».**
**16.20** «Кто хочет стать миллионером» с Дмитрием Дибровым.
**17.50** «Сегодня вечером».
**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.
**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**21.05** «Удача в придачу!». Дневник.
**21.10** «Сегодня вечером». Продолжение.
**22.10** Т/с **«ИЩУ МУЖЧИНУ».**

### СТВ

**6.00** Х/ф **«КУБАНСКИЕ КАЗАКИ».**
**7.50** «Анфас».
**8.10** «Самая полезная программа».
**9.05** Документальный проект.
**10.00** «Минск и минчане».
**10.35** «Центральный регион».
**11.05** Т/с **«ФРОНТ».**
**13.00** «День секретных проектов».
**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».
**13.45, 16.45, 20.05** Т/с **«ПРИ ЗАГАДОЧНЫХ ОБСТОЯТЕЛЬСТВАХ».**
**19.55** «СТВ-спорт».
**21.45** Документальный спецпроект.

### Мир

**6.00, 8.00** Мультфильмы.
**6.15** «Миллион вопросов о природе».
**6.30** «Союзники».
**7.05** «Такие разные».
**7.35** «Секретные материалы».
**9.00** «Ой, мамочки!».
**9.25** «Наше кино. История большой любви».
**10.00, 16.00, 19.00** Новости.
**10.15** «Как в ресторане».
**10.45** Х/ф **«РИМСКИЕ КАНИКУЛЫ».**
**13.15** Х/ф **«ВОКЗАЛ ДЛЯ ДВОИХ».**
**16.15** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК С БУЛЬВАРА КАПУЦИНОВ».**
**18.40, 19.15** Х/ф **«ЖЕНИТЬБА БАЛЬЗАМИНОВА».**
**21.20** Т/с **«ОБРАТНАЯ СТОРОНА ЛУНЫ».**
**1.25** Х/ф **«КРЕСТОНОСЦЫ».**

### НТВ-Беларусь

**6.10** «Астропрогноз».
**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**6.50** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.
**7.20** «Подозреваются все».
**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».
**8.20, 10.25** Х/ф **«ПОДСТАВА».**
**13.00** Прокурорская проверка.
**14.10** «Боевик «Морские дьяволы. Смерч».
**16.25** «Следствие вели…».
**17.05** «Секрет на миллион». Сосо Павлиашвили.
**19.20** «Ты супер!» Суперсезон.
**21.35** Х/ф **«РЕКВИЕМ ДЛЯ СВИДЕТЕЛЯ».**

### БЕЛАРУСЬ РТР

**5.30** «Утро Беларуси».
**8.30** Т/с **«ЛЮБОВЬ НА МИЛЛИОН».**
**10.35, 11.25** Т/с **«ТАМ, ГДЕ ТЫ».**
**11.00, 14.00, 20.00** ВЕСТИ.
**12.45, 14.25** Т/с **«СЕРДЦЕ НЕ КАМЕНЬ».**
**15.45** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».
**16.20** Т/с **«ЗАТМЕНИЕ».**
**18.45, 20.25** Т/с **«ИДЕАЛЬНЫЙ ВРАГ».**
**19.45** «Плюс минус».
**0.45** Международная профессиональная музыкальная премия «BraVo».

## кіно і спорт

**TV1000**

**6.10, 15.20** 12 лет рабства. **8.55** Золотой век. **11.20** Девятки. **13.20** Голая правда. **17.50** Назад в будущее III. **20.10** Код Да Винчи. **22.55** Обещание. **1.25** Он и Она. **3.45** Пятый элемент.

**TV1000 ACTION**

**7.45** Бесславные ублюдки. **10.45** Горец 2. **12.45** Солдатики. **14.55** Кровью и потом: Анаболики. **17.20** Экспат. **19.20** Реальные парни. **21.10, 5.10** Джанго освобождённый. **0.30** Чистильщик. **2.15** Арес. **3.40** Под прицелом.

**TV1000 РУССКОЕ КИНО**

**6.20** Побег. **8.55** Жених. **10.55** Герой. **12.45** На Дерибасовской хорошая погода, или на Брайтон-Бич опять идут дожди. **14.45** Небесный суд. **16.50, 4.50** Три богатыря и Морской царь. **18.25** Семь ужинов. **20.20** Бабушка лёгкого поведения. **22.10** Притяжение. **0.30** Высоцкий. Спасибо, что живой. **3.00** Статус: свободен.

**ТВ3**

**6.00, 5.45** Мультфильмы. **9.45, 10.45** Т/с **«ГРИММ». 11.45** Х/ф **«АПОЛЛОН 13». 14.30** Х/ф **«ЧУЖОЙ 3». 16.45** Х/ф **«ЧУЖОЙ 4: ВОСКРЕШЕНИЕ». 19.00** «Последний герой». **20.15** Х/ф **«ВСПОМНИТЬ ВСЁ». 22.30** Х/ф **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ 4». 1.00** Х/ф **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ 3». 3.30** Х/ф **«ЧЕЛЮСТИ 4: МЕСТЬ». 4.45, 5.15** «Охотники за привидениями».

**ФЕНИКС**

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ЖАРКИЙ ЛЕД». 12.00, 13.00** Т/с **«ОХОТНИКИ ЗА БРИЛЛИАНТАМИ». 14.00, 15.00** Т/с **«ВЛЮБЛЕННЫЕ ЖЕНЩИНЫ». 20.00, 21.00** Т/с **«НОЧНЫЕ ЛАСТОЧКИ». 22.00, 23.00** Т/с **«Я – ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ. ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КАИНА». 4.00, 5.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ ПО ПРИКАЗУ». 6.00, 7.00** Т/с **«МАМА – ДЕТЕКТИВ».**

**КИНОКОМЕДИЯ**

**0.45** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ПОНЕВОЛЕ». 2.45** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ». 5.05** Х/ф **«НЕАДЕКВАТНЫЕ ЛЮДИ». 7.05** Х/ф **«АМЕЛИ». 9.35** Х/ф **«МНОЖЕСТВО». 11.50** Х/ф **«ДЖЕЙ И МОЛЧАЛИВЫЙ БОБ НАНОСЯТ ОТВЕТНЫЙ УДАР». 13.45** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА». 15.45** Х/ф **«АГЕНТ ПОД ПРИКРЫТИЕМ». 17.35** Х/ф **«ПРО АДАМА». 19.30** Х/ф **«ЭНЦИКЛОПЕДИЯ РАЗВОДОВ». 21.05** Х/ф **«ПОМОГИТЕ СТАТЬ ОТЦОМ». 22.55** Х/ф **«ПРОДВИНУТЫЙ».**

**КИНОСЕРИЯ**

**0.50, 2.00, 2.55, 4.00, 23.35** Мост. **5.00, 6.05, 7.05, 8.05** Консультант. **9.10, 10.10** Городские шпионы. **11.15** Шерлок: Ложный детектив. **13.10** Шерлок: Последнее дело. **15.00, 15.55, 16.55, 17.55, 18.55** Мёртв на 99%. **20.00, 21.10, 22.20** Война и мир.

**ВТВ**

**6.05, 4.00** «ЛОВИ МОМЕНТ». **6.35, 3.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.30** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **7.50** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **8.15** Мультфильмы «МАША И МЕДВЕДЬ». **8.50** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.40** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **10.45, 17.30** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 12.10** Т/с **«ВОРОНИНЫ». 14.15, 0.50** Скетч-шоу «ОДНА ЗА ВСЕХ». **15.25, 17.25, 18.55, 23.45, 0.45** Прогноз погоды на неделю. **15.30** Х/ф **«ВЕЗУЧИЙ СЛУЧАЙ». 19.00** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **20.00** Т/с **«КУХНЯ». 22.00** Х/ф **«ИНТУИЦИЯ». 23.50, 5.10** Т/с **«МАМЫ ЧЕМПИОНОВ». 1.45** Т/с **«БЕЗМОЛВНЫЙ СВИДЕТЕЛЬ».**

**БЕЛАРУСЬ 5**

**6.45** Футбол. Лига Европы УЕФА. 1/2 финала. Первый матч. Арсенал – Валенсия. **8.40** Большой спорт. **9.25** Легкая атлетика. Бриллиантовая лига. **11.00** Наша Олимпиада. **11.30** Тренировочный день. **12.00** Теннис. WTA. Прага. Финал. **14.10** Спорт-микс. **14.20** Спорт-центр. **16.50** Футбол. Чемпионат Англии. Вест Хэм – Саутгемптон. **18.45** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Торпедо (Минск) – Дняпро (Могилев). В перерыве – Спорт-центр. **20.40** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Неман (Гродно) – Торпедо-БелАЗ (Жодино). В перерыве – Спорт-центр. **22.35** Футбол. Чемпионат Англии. Ньюкасл – Ливерпуль. **23.45** Хоккей. Чемпионат мира. Первый дивизион. Казахстан – Беларусь.

**EUROSPORT**

**0.00** Ралли. Канарские острова. Первый день. **0.35, 4.00, 6.00, 9.30** Велоспорт. «Тур Романдии». 3-й этап. **1.30, 5.00, 10.45** Велоспорт. «Тур Йоркшира». 2-й этап. **2.30, 7.00, 12.00, 16.15, 21.00** Снукер. Чемпионат мира. 1/2 финала. **15.00** Конный спорт. Global Champions Tour. **19.30** Автогонки. World Endurance. Спа.

## хобі і адпачынак

**ДРАЙВ**

**6.00, 7.05, 0.05** Школа внедорожного вождения. **6.15, 6.40, 7.20, 7.40** Гаражная команда. **8.05, 8.20, 8.35** Под микроскопом. **8.50, 1.45** 9 злобных водителей. **9.20** Автодрайв 2019. **9.50** Тест на «Драйве». **10.15, 19.30, 22.30, 3.15** Металлоломщики. **11.00, 20.15, 4.00** Автодело. **11.30, 20.45, 4.30** Проверка на дороге. **12.00, 12.30, 12.55** Авто Европа. **13.25, 13.50, 14.20, 14.45, 15.15, 15.45, 16.10, 16.40, 17.10, 17.35, 18.05, 18.35, 19.00** Автомобильные дороги России. **21.10, 2.15, 5.00** Пусть меня научат. **21.45, 2.45, 5.30** Теория полного привода. **22.15** Дома на колесах. **23.15** Вторичка. **23.30** Тайный покупатель. **23.45, 0.45** Лошадиные силы. **0.20** Все включено. **0.30, 1.30** Куда уходит детство. **1.05** Совет в бардачок. Эксклюзив.

**EXPLORE**

**6.00, 6.45, 7.30, 8.20** Пятая передача. **9.10, 10.00, 10.50** Австралийские золотоискатели. **11.35, 12.30** Австралийские охотники на лобстеров. **13.15, 14.00, 14.50, 15.35** Поисковая команда в Австралии. **16.25, 17.20** Короли разрушения. **18.10, 18.40, 19.10** Грузовые войны: Великобритания. **19.40, 20.30** Чудовищный карп. **21.20** Надсмотрщик. **22.10** Тренировка по древним традициям. **23.05, 0.10** Миллиарды. **1.20, 2.05** Уникальные дома из дерева. **2.50** Речные чудовища. **3.50, 4.40** Выживание в лесу. **5.30** Невероятные изобретения.

**HISTORY**

**6.00** Наполеон. **7.00, 7.55, 8.50, 17.15, 18.10, 19.10** Тайная война. **9.45, 10.50, 11.55** Разбойники, пираты и бандиты. **13.00, 13.50, 14.40, 15.30, 22.00** Падение империи. **16.20** Последнее путешествие Романовых. **20.15** Тайны египетских пирамид. **21.10** Восемь дней, которые создали Рим. **22.45** История оружия. **23.40** Боевые корабли. **0.30** Вторая мировая в цвете. **1.25, 5.50** Запретная история. **2.15, 3.10** Музейные тайны. **4.00, 4.30** Невероятные изобретения. **5.00** Вулканическая одиссея.

**NATURE**

**6.00, 6.25, 6.50, 7.20, 7.45, 8.10, 8.40, 9.05** Животные инстинкты с Крисом Хамфри. **9.35, 10.25, 11.15** Свирепые животные. **12.05, 12.50, 13.35, 19.50, 20.35, 21.20** Дикие штучки с Домиником Монаганом. **14.25** Дневники катастроф 2015. **15.20** Дневники катастроф 2016. **16.15** Дневники катастроф 2017. **17.15, 18.05** Коварная Земля. **19.00, 3.50** Хищные питомцы. **22.10** Дикие Филиппины с Найджелом Марвеном. **23.00, 23.45, 0.30** Война за животных. **1.15, 2.05, 2.55** Жуткие, настоящие и странные. **4.40** СупервеТеринар. **5.35** Путешествие по паркам.

**NATIONAL GEOGRAPHIC**

**6.00, 5.35** Только не рассказывайте маме, что я в. **6.25** Инстинкт выживания: как остаться в живых. **7.10** Инстинкт выживания 4, лучшее. **7.55, 8.40, 9.25, 10.10, 10.55, 11.40** Миграция. **12.25, 13.15, 14.00** Затерянные сокровища Египта. **14.45, 15.35, 16.25, 17.20, 18.05, 23.35, 0.25, 1.15, 2.15, 3.05** Гений: Пикассо. **19.00, 20.30, 21.20, 22.05** Взгляд изнутри: Вторая мировая война. **19.45** В поисках наследия. **22.50** 1917: Один год – две революции. **4.00, 4.45** Машины: разобрать и продать.

**ОХОТА И РЫБАЛКА**

**6.00, 22.35** Беларусь: в поисках хорошего клева. **6.30, 23.40** Рыболовное путешествие с чемпионом. Беларусь. **7.00** Черный зверь в Вакаресе. **7.55, 19.30** Рыбалка-шоу ТВ. **8.25** На рыбалку с охотой. **9.00** Горная охота на тяньшанского архара. **9.30, 16.10, 21.05, 3.25** Фишермания. **10.00, 21.35** Рыбалка сегодня. **10.15, 21.50** Подводная охота. **10.45, 22.20** Истории охоты от Павла Гусева. **11.00, 17.30, 1.05, 5.05** Трофеи. **11.35, 18.55, 1.30, 5.30** Водный мир. **12.05** Большая охота в Буркина Фасо. **13.05** Стратегия охоты с Сергеем Астаховым. **13.35** Спиннинг сегодня. **14.05** Рыбалка в России. **14.35, 2.00** Загадки толстолобика. **15.10, 2.30** Нахлыст. **15.40, 2.55** Горная охота на колымского снежного барана. **16.40** Советы бывалых. **17.00, 4.35** Охота в Беларуси. **18.00** Рыболовные путешествия. **20.00** Поймай и сними. **20.30** Горная охота на корякского и чукотского снежного барана. **23.10** Поймать лосося. **0.05** Великие миграции в Камарге. **3.55** Кухня с Сержем Марковичем. **4.05** Карпфишинг.

**УСАДЬБА**

**6.00, 9.50, 21.45** Инспекция Холмса. **6.55, 14.55, 22.35, 3.05** Варенье. **7.05, 11.00, 15.15, 19.00, 22.50, 3.20** Семейный обед. **7.40, 11.30, 15.45, 19.35, 23.20, 3.50** У мангала. **8.10, 12.00, 23.50** 10 самых больших ошибок. **8.35, 16.45, 20.30, 0.20, 4.50** Забытые ремесла. **8.55, 12.50, 0.35** Искатели приключений. **9.25, 13.15, 17.30, 21.20, 1.05, 5.35** Умный дом. Новейшие технологии. **10.40** Паштеты. Спецвыпуск. **12.30** Доктор Смузи. Спецвыпуск. **13.45** Куличи. Спецвыпуск. **14.00, 18.00, 2.25** Дома на деревьях. **16.15, 20.05, 4.25** Домик в Америке. **17.00, 5.05** Ботаника с Павлом Стерховым. **18.45** Готовим на Майорке. **20.50** Дачные радости с Виталием Декабревым. **1.40** Жизнь в деревне. **2.10** Да здравствует мыло душистое!

### SETANTA SPORTS

**ПОНЕДЕЛЬНИК**

**0.15, 12.45** Футбол. Чемпионат Италии. «СПАЛ» – «Дженоа». **2.00, 10.00** Бокс. Обзор. **3.00, 17.15** Хоккей. НХЛ. **6.00** Дрим Тим. Чикаго Буллз / Лучшее от Райли. **6.30** Футбол. Чемпионат Испании. «Атлетик» – «Алавес». **8.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Торино» – «Милан». **11.00** Футбол. Чемпионат Италии. «Фрозиноне» – «Наполи». **14.30** Футбол. Чемпионат Испании. «Райо Вальекано» – «Реал Мадрид». **16.15, 21.00** Футбол. Чемпионат Франции. Обзор. **19.15** Футбол. Чемпионат Испании. «Интер» – «Ювентус». **21.55** Футбол. Чемпионат Испании. «Реал Бетис» – «Эспаньол».

**ВТОРНИК**

**0.00** «Сетанта Спорт». **0.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Рома» – «Кальяри». **2.00** Бокс. Обзор. **3.00, 17.00** Хоккей. НХЛ. **6.00** Бессмертные. Джокович / Маррей / Эверт / Шарапова. **6.30, 12.45** Футбол. Чемпионат Франции. Обзор. **7.30** Вечер UFC. Майями. **10.30** Дрим Тим. Ливерпуль / Италия. **11.00** Футбол. Чемпионат Италии. «Аталанта» – «Удинезе». **13.45** Футбол. Чемпионат Испании.Обзор. **14.45** Футбол. Чемпионат Италии. «Фиорентина» – «Сассуоло». **16.30, 20.00** Футбол. Чемпионат Шотландии. Обзор. **19.00, 23.15** Футбол. Чемпионат Италии. Обзор. **20.30** Футбол. Чемпионат Испании. Обзор. **21.30** Футбол. Чемпионат Испании. «Барселона» – «Леванте».

**СРЕДА**

**0.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Фрозиноне» – «Наполи». **2.00, 15.45** Бокс. Обзор. **3.00, 16.45** Хоккей. НХЛ. **6.00, 10.45** Футбол. Чемпионат Шотландии. Обзор. **6.30** Футбол. Чемпионат Испании. «Реал Бетис» – «Эспаньол». **8.15** Дрим Тим. Лучшее от Моуриньо / Бельгия. **8.45, 23.15** Футбол. Чемпионат Испании. Обзор. **9.45, 14.45** Футбол. Чемпионат Италии. Обзор. **11.15** Футбол. Чемпионат Испании. «Интер» – «Ювентус». **13.00** Футбол. Чемпионат Франции. «Бордо» – «Лион». **18.45** Футбол. Чемпионат Франции. Обзор. **19.45** Футбол. Чемпионат Испании. «Райо Вальекано» – «Реал Мадрид». **21.30** Футбол. Чемпионат Италии. «Торино» – «Милан».

**ЧЕТВЕРГ**

**0.15** Футбол. Чемпионат Италии. «СПАЛ» – «Дженоа». **2.00** Футбол. Чемпионат Франции. Обзор. **3.00, 17.00** Хоккей. НХЛ. **6.00** Бессмертные. Фрум / Уиггинс / Пендлтон / Хой. **6.30** Футбол. Чемпионат Испании. Обзор. **7.30** Футбол. Чемпионат Италии. «Фрозиноне» – «Наполи». **9.15, 9.45, 19.00, 19.30** Бокс. Обзор. **10.45** Бессмертные. Бекхэм / Пирло / Лам / Роббен. **11.15** Футбол. Чемпионат Италии. «Рома» – «Кальяри». **13.00** Футбол. Чемпионат Италии. «Торино» – «Милан». **14.45** Футбол. Чемпионат Испании. «Барселона» – «Леванте». **16.30** Д/ф. **20.30** Футбол. Чемпионат Италии. Обзор. **21.30** Футбол. Чемпионат Шотландии. Обзор. **22.00** Вечер UFC. Майами.

## Беларусь 1

**7.15** Х/ф «ПТИЦА В КЛЕТКЕ».
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.45, 12.35** Т/с «СВАТЫ 5».
**10.45** «На вылет!» Развлекательно-интеллектуальное шоу.
**11.35** «Игры.by».
**12.10** Новости. Центральный регион.
**13.30** Х/ф «ЛЮБОВЬ КАК МОТИВ».
**15.15** «Твой город».
**15.30** «Вокруг планеты».
**16.20** Eurovision. Итоги недели.
**16.45** Х/ф «ПЕРВЫЙ РАЗ ПРОЩАЕТСЯ».
**20.40** Навіны надвор'я.
**21.00** «Главный эфир».
**22.10** Х/ф «ВОПРЕКИ СУДЬБЕ».

## Беларусь 2

**7.00** Т/с «ЦЕНТРАЛЬНАЯ БОЛЬНИЦА».
**7.55, 19.55** «Телебарометр».
**8.10** Т/с «ЧИП И ДЕЙЛ СПЕШАТ НА ПОМОЩЬ».
**8.55** Х/ф «УНИВЕРСИТЕТ МОНСТРОВ».
**10.35** «Мир наизнанку. Япония». Трэвел-шоу.
**11.30** «ЖаннаПожени». Реалити-шоу.
**12.30** Х/ф «КАРЛИК НОС».
**13.55** Х/ф «САЛЮТ-7».
**15.50** «Папа попал». Реалити-шоу.
**18.00** «Битва экстрасенсов. 17-й сезон». Реалити-шоу.
**20.30** Х/ф «ЛЮБИТ НЕ ЛЮБИТ».
**22.00** КЕНО.
**22.05** «Третий лишний». Реалити-шоу [СТ].
**23.05** «Сыграй меня, если сможешь».
**0.00** Х/ф «СОЮЗНИКИ».

## Беларусь 3

**7.35** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**8.00, 13.00, 20.15** Навіны культуры.
**8.20, 20.30** «Гэты дзень».
**8.25** Мультфільмы.
**8.45** «Падкідыш». Мастацкі фільм [СТ].
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.25** «Беларуская кухня». Бульбяная каўбаса з падлівай.
**10.50** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.40** «Па законах ваеннага часу». Мастацкі фільм.
**13.15** «Ваенна-палявы раман». Мастацкі фільм [СТ].
**14.45** Гала-канцэрт зорак аперэты і мюзікла, прысвечаны юбілею Наталіі Гайда.
**16.30** «МУР». Шматсерыйны мастацкі фільм. Частка пятая «1945», заключная.
**19.35** «Арт-гісторыі». Партрэт краіны – фронту.
**20.00** «Архітэктура Беларусі».
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Каханне з прывілеямі». Мастацкі фільм.
**23.15** «Любоў Палішчук. Жорсткае танга». Дакументальны фільм.
**23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, журналіста, вучонага Рыгора Булацкага.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».
**7.10** Мультфильмы «Маша и Медведь».
**7.40** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
**8.40** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.10** «Воскресная проповедь».
**9.25** «Здоровье».
**10.35** Премьера «Татьяна Самойлова. «Ее слез никто не видел».
**11.35** Х/ф «КОРОЛЕВА БЕНЗОКОЛОНКИ».
**13.00** Х/ф «СТАРИКИ-РАЗБОЙНИКИ».
**14.45** Премьера. «Ледниковый период. «Дети». Новый сезон.
**16.20** «Ледниковый период. «Дети». Новый сезон. Продолжение.
**17.20** ОНТ представляет: «Спорт-фактор»(12+).
**18.25** «Три аккорда». Концерт.
**20.00** «Контуры».
**21.05** ОНТ представляет: «Профессиональная среда».
**21.35** Т/с «ПО ЗАКОНАМ ВОЕННОГО ВРЕМЕНИ 3».
**23.35** «Что? Где? Когда?». Весенняя серия игр. Финал.
**0.55** Х/ф «ГВАРДИИ «КАМЧАТКА».

## СТВ

**6.00** «Пища богов».
**7.35** «Секретные территории».
**9.15** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловаться».
**10.30** «Большой город».
**11.00** «Документальный проект».
**12.40, 13.40, 16.40** Т/с «ПОКУШЕНИЕ».
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**19.30** «Неделя».
**20.35, 23.40** Документальный спецпроект.
**23.10** «Неделя спорта».

## Мир

**6.00, 6.30, 7.35, 8.35** Мультфильмы.
**6.15** «Миллион вопросов о природе».
**7.05** «Беларусь сегодня».
**8.05** «Культ/туризм».
**8.55** «Еще дешевле».
**9.25** «Наше кино. История большой любви».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.15** «Мировые леди».
**10.45** «Любовь без границ».
**11.50, 16.15** Т/с «ТИХИЙ ДОН».
**21.20** Т/с «ОБРАТНАЯ СТОРОНА ЛУНЫ».
**2.30** Х/ф «СЛОНЫ МОИ ДРУЗЬЯ».

## НТВ-Беларусь

**6.10** «Астропрогноз».
**6.20** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**6.50, 0.30** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.
**7.20** «Подозреваются все».
**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».
**8.20** «ЧП.by».
**8.50** «Врачебные тайны плюс».
**9.25** «Истории спасения.
**10.25** Главная дорога.
**11.05** «Еда живая и мёртвая».
**12.05** Квартирный вопрос.
**13.15** «Поедем, поедим!».
**14.10** Х/ф «СЫН ЗА ОТЦА...».
**16.20** «Следствие вели…».
**18.00** «Новые русские сенсации».
**19.35** Х/ф «ОПАСНАЯ ЛЮБОВЬ».
**22.40** Константин Хабенский, Владимир Машков, Чулпан Хаматова в остросюжетном триллере «Домовой».

## Беларусь РТР

**7.00** Х/ф «БЕДНАЯ LIZ».
**9.15** Т/с «ТАМ, ГДЕ ТЫ».
**11.00, 20.00** ВЕСТИ.
**11.25** Т/с «СЕРДЦЕ НЕ КАМЕНЬ».
**14.00** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».
**16.10** «Выход в люди».
**17.25, 21.00** Х/ф «БОЛЬШОЙ АРТИСТ».
**22.20** Х/ф «КАТЬКИНО ПОЛЕ».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10** Назад в будущее I. **8.30** Обещание. **11.05** Пятый элемент. **13.30** Комната страха. **15.35** Семейка Крудс. **17.25** Код Да Винчи. **20.10** Ангелы и Демоны. **22.45** Кинг Конг. **2.10** Джули и Джулия: Готовим счастье по рецепту. **4.10** Елизавета.

### TV1000 ACTION

**8.35** Реальные парни. **10.40** Чистильщик. **12.45** Страховщик. **14.55** Нападение на 13-й участок. **17.00** Хеллбой II: Золотая армия. **19.20** Овердрайв. **21.10, 5.10** Омерзительная восьмёрка. **0.50** Убить Билла. **3.10** Киллер Джо.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Бабушка лёгкого поведения. **8.05** Притяжение. **10.25** Высоцкий. Спасибо, что живой. **13.00** Какая чудная игра. **14.45** Семь ужинов. **16.30** Хороший мальчик. **18.20** За гранью реальности. **20.20** Кандагар. **22.25** Всё или ничего. **0.15** Мифы. **2.05** Я худею. **3.55** Волкодав из рода Серых Псов.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.45, 10.45** Т/с «ГРИММ». **11.45** Х/ф «ГРАВИТАЦИЯ». **13.30** Х/ф «ВСПОМНИТЬ ВСЁ». **15.45** Х/ф «ЧУЖИЕ». **18.30** Х/ф «ЧУЖОЙ 3». **21.00** Х/ф «ЧУЖОЙ 4: ВОСКРЕШЕНИЕ». **23.00** «Последний герой». **0.15** Х/ф «СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ 4». **2.45** Х/ф «АПОЛЛОН 13». **5.00, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с «ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». **10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с «ЖАРКИЙ ЛЕД». **12.00, 13.00, 4.00, 5.00** Т/с «ОХОТНИКИ ЗА БРИЛЛИАНТАМИ». **14.00, 15.00** Т/с «ВЛЮБЛЕННЫЕ ЖЕНЩИНЫ». **20.00, 21.00** Т/с «НОЧНЫЕ ЛАСТОЧКИ». **22.00, 23.00** Т/с «Я – ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ. ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КАИНА». **6.00, 7.00** Т/с «МАМА – ДЕТЕКТИВ».

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.35** Х/ф «УЛЬТРААМЕРИКАНЦЫ». **2.35** Х/ф «БОЛЬШОЙ СОЛДАТ». **4.40** Х/ф «КОРОЛЬ ВЕЧЕРИНОК». **6.30** Х/ф «ШЕФ». **8.05** Х/ф «ВАСАБИ». **9.55** Х/ф «ДИКАЯ ШТУЧКА». **11.50** Х/ф «ГУДЗОНСКИЙ ЯСТРЕБ». **13.45** Х/ф «ПРИТВОРИСЬ МОИМ МУЖЕМ». **15.45** Х/ф «БЕЗ ТОРМОЗОВ». **17.30** Х/ф «ТАКСИ». **19.10** Х/ф «ТАКСИ 2». **20.55** Х/ф «ТАКСИ 3». **22.30** Х/ф «ТАКСИ 4».

### КИНОСЕРИЯ

**0.50, 2.00, 2.55, 4.00** Мост. **5.10, 6.20, 7.25, 8.25, 9.30, 10.35** Городские шпионы. **11.40, 12.40, 13.45, 14.45, 15.50, 16.50, 17.55, 19.00** Смерть в раю. **20.00, 21.10, 22.20** Война и мир.

### ВТВ

**6.00, 7.20, 8.15, 9.10, 10.35, 12.15, 12.55, 13.55, 15.55, 18.30** Прогноз погоды на неделю. **6.05, 4.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **6.35, 5.00** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.25, 3.35** Скетч-шоу «6 КАДРОВ». **8.20, 2.45** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.15** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **9.35** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.00** Мультфильмы «МАША И МЕДВЕДЬ». **10.40** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **11.30** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ 2». **12.20** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **13.00** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **14.00** Т/с «БОЛЬШАЯ ИГРА». **16.00** Х/ф «ШТУРМ БЕЛОГО ДОМА». **18.35, 19.15** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **20.40** Х/ф «ТАКСИ». **22.20** Х/ф «ТАКСИ 2». **0.00** Х/ф «КОНЕЦ СВЕТА 2013: АПОКАЛИПСИС ПО-ГОЛЛИВУДСКИ». **1.55** «КИНО В ДЕТАЛЯХ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.05** Футбол. Чемпионат Англии. Ньюкасл – Ливерпуль. **9.10** Спорт-микс. **9.20** Хоккей. Чемпионат мира. Первый дивизион. Словения – Литва. **11.45** Теннис. WTA. Рабат. Финал. **12.50, 20.50** Хоккей. Чемпионат мира. Первый дивизион. Беларусь – Южная Корея. **15.15** Пит-стоп. **15.45** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **16.20** Спорт-центр. **18.45** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. ФК Минск – Динамо (Брест). В перерыве – Спорт-центр. **22.50** Итоги недели. **23.35** Большой спорт.

### EUROSPORT

**0.30** Ралли. Канарские острова. Обзор. **1.00, 4.00, 6.00, 9.30, 13.30** Велоспорт. «Тур Романдии». 4-й этап. **1.45, 5.00, 10.45** Велоспорт. «Тур Йоркшира». 3-й этап. **2.30, 7.00, 12.30** Снукер. Чемпионат мира. 1/2 финала. **12.00, 19.00** Автогонки. WTCR. Хунгароринг. Обзор. **14.45** Велоспорт. «Тур Романдии». 5-й этап. **16.15, 20.30** Снукер. Чемпионат мира. Финал. **19.30** Конный спорт. Global Champions Tour.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 7.05, 0.05** Школа внедорожного вождения. **6.15, 6.40, 7.20, 7.40** Гаражная команда. **8.05, 8.20, 8.35** Под микроскопом. **8.50** Покорители Азии 2. **9.20** Сравнительный тест. **9.50** Это Родина твоя. **10.20, 19.35, 22.35, 3.00** Металлоломщики. **11.05, 20.20, 3.45** Автодело. **11.30, 20.50, 4.10** Проверка на дороге. **12.00, 12.30** Автомобильные дороги России. **12.55, 13.25** Дорогами БАМа. **13.55, 14.20, 14.50, 15.20, 15.50, 16.15** Норильск Диксон. Есть рекорд! **16.45, 17.15, 17.45, 18.10, 18.40, 19.05, 23.25** Сити-тестер **21.20** Автомобильные музеи мира. **21.50, 2.15, 5.05** Теория полного привода. **22.20, 2.45, 5.35** Самообслуживание. **23.50, 0.45** Лошадиные силы. **0.20** Куда уходит детство. **0.35** Наезд! **1.05** Вечер с Пикуленко. **1.45, 4.40** Пусть меня научат. **5.50** Обновление.

### EXPLORE

**6.00, 6.55, 7.50, 8.45** Приключения на рыбалке. **9.40, 10.35** Большое рыболовное состязание. **11.25, 12.15, 13.05, 13.55, 14.40, 0.50, 1.40** Дикая Монтана. **15.30, 16.20** Австралийские охотники на лобстеров. **17.10** Чудовищный карп. **18.00, 18.50** Переделка старья. **19.40** Надсмотрщик. **20.30** Тренировка по древним традициям. **21.25, 22.20** Хамелеон: добро пожаловать в ад. **23.15, 0.00** Лесные люди. **2.25, 3.20** Короли разрушения. **4.20, 4.55, 5.25** Полигон.

### HISTORY

**6.40, 4.00, 4.30** Невероятные изобретения. **7.00, 8.00, 9.00** Королевский двор изнутри. **10.05, 10.50, 11.40, 12.30, 22.45, 23.40** Смертоносный интеллект. **13.20, 14.25, 15.30** Наполеон. **16.30** Кельты: кровью и железом. **17.30, 18.20** Восемь дней, которые создали Рим. **19.10** Тайная война. **20.05** Первые цивилизации. **21.00** Тайны египетских пирамид. **21.55** Загадки Египта. **0.30** Вторая мировая в цвете. **1.25, 5.50** Запретная история. **2.15, 3.10** Музейные тайны. **5.00** Вулканическая одиссея.

### NATURE

**6.00, 6.25, 6.55, 7.20, 7.50, 8.15, 8.45** Самый дикий город Аляски. **9.15, 10.05, 10.55** Жизнь: первые шаги. **11.50** Дикая Бразилия. **12.45** Дикая Канада. **13.45** Не как все. **14.40** Возвращение незваных гостей. **15.40, 16.35** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **17.30, 18.25** Галапагосы. **19.20, 20.10** Микромонстры с Дэвидом Аттенборо. **21.00** Огромные звери: последние из великанов. **21.55** Новый взгляд на тираннозавра. **22.50, 23.40** Коварная Земля. **0.30, 1.20, 2.10, 3.00** Жуткие, настоящие и странные. **3.55** Хищные питомцы. **4.45** Суперветеринар. **5.35** Путешествие по паркам.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.45, 7.35, 8.25, 10.00, 10.50** Дикая природа России. **9.15** В поисках наследия. **11.35, 12.20, 13.10** Затерянные сокровища Египта. **13.55, 14.45, 15.35, 16.25, 17.15, 23.55, 0.40, 1.35, 2.30, 3.30** Гений: Пикассо. **18.10, 19.00, 21.25, 22.15** Враждебная планета. **19.50, 20.35, 23.05** Морган Фриман. **4.25** Осушить океан. **5.15** Авто – SOS.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.40** Стратегия охоты с Сергеем Астаховым. **6.30, 23.10** Спиннинг сегодня. **7.00** Большая охота в Буркина Фасо. **7.55, 19.30** Загадки толстолобика. **8.30, 20.05** Нахлыст. **9.00** Горная охота на колымского снежного барана. **9.30, 16.00, 21.05, 3.30** Фишермания. **10.00, 21.35** Карпфишинг. **10.35** Охота в Беларуси. **11.05, 17.30, 1.10, 5.05** Трофеи. **11.35, 19.00, 1.35, 5.30** Водный мир. **12.10, 18.00** Рыболовные путешествия. **13.05** Привет, Малек! **13.25** Беларусь: в поисках хорошего клева. **13.55** Рыболовное путешествие с чемпионом. Беларусь. **14.25, 2.10** Рыбалка-шоу ТВ. **14.55** На рыбалку с охотой. **15.30, 3.00** Горная охота на корякского и чукотского снежного барана. **16.30, 4.10** Рыбалка сегодня. **16.45, 4.20** Подводная охота. **17.15, 4.50** Истории охоты от Павла Гусева. **20.35** Горная охота на охотского снежного барана. **22.10** Уральская рыбалка. **23.40** Рыбалка в России. **0.10** Черный зверь в Вакаресе. **2.35** Поймай и сними. **3.55** Кухня с Сержем Марковичем.

### УСАДЬБА

**6.00, 14.00, 17.50, 21.45, 2.25** Дома на деревьях. **6.50, 10.40, 22.35** Варенье. **7.05, 10.55, 15.05, 19.00, 22.50, 3.20** Семейный обед. **7.35, 11.30, 15.35, 19.35, 23.20, 3.50** У мангала. **8.10, 16.05, 20.05, 23.50, 4.25** Домик в Америке. **8.35, 20.30, 0.20, 4.50** Забытые ремесла. **8.55, 0.35** Ботаника с Павлом Стерховым. **9.25, 13.15, 17.20, 21.20, 1.05, 5.35** Умный дом. Новейшие технологии. **9.50** Инспекция Холмса. **11.55** 10 самых больших ошибок. **12.25** Вот блин! Спецвыпуск. **12.45** Искатели приключений. **13.45** Куличи. Спецвыпуск. **14.45, 18.45, 3.05** Готовим на Майорке. **16.35** Не просто суп! Спецвыпуск. **16.55, 5.05** Дачные радости с Виталием Декабревым. **20.50** Дачные радости с Мариной Рыкалиной. **1.40** Жизнь в деревне. **2.10** Да здравствует мыло душистое!

## SETANTA SPORTS

### ПЯТНИЦА

**1.00, 6.00** Бокс. Обзор. **2.00, 10.45, 21.00** Футбол. Чемпионат Испании. Обзор. **3.00, 16.45** Хоккей. НХЛ. **6.30, 11.45** Футбол. Чемпионат Италии. Обзор. **7.30** Футбол. Чемпионат Италии. «СПАЛ» – «Дженоа». **9.15** Дрим Тим. Чемпионат Англии / Аякс. **9.45** Футбол. Чемпионат Франции. Обзор. **12.45, 20.30** Футбол. Чемпионат Шотландии. Обзор. **13.15** Вечер UFC. Майами. **16.15** Дрим Тим. Нью-Йорк Никс / NBA. **18.45** Футбол. Чемпионат Италии. «Фрозиноне» – «Наполи». **21.55** Футбол. Чемпионат Испании. «Севилья» – «Леганес».

### СУББОТА

**0.00, 12.45, 17.00** «Сетанта Спорт». **0.15** Футбол. Чемпионат Испании. «Интер» – «Ювентус». **2.00** Дрим Тим. Янкиз / Непобедимые. **2.30** Дрим Тим. Кубок Райдера. **3.00, 19.15** Хоккей. НХЛ. **6.00** Дрим Тим. Кубок Дэвиса / Кубок Федерации. **6.30** Футбол. Чемпионат Италии. «Аталанта» – «Удинезе». **8.15** Футбол. Чемпионат Франции. Обзор. **9.15** Футбол. Чемпионат Испании. «Севилья» – «Леганес». **11.00** Футбол. Чемпионат Италии. «Фиорентина» – «Сассуоло». **13.00** Д/ф. **13.30** Бессмертные. Торрес / Рауль / Это`о / Кьеллини. **13.55** Футбол. Чемпионат Испании. «Леганес» – «РайоВальекано». **16.00** Бессмертные. Бейл / Касильяс / Левандовский / Соло. **16.30** Бессмертные. Хави / Ибрагимович / Кейн. **17.10** Футбол. Чемпионат Испании. «Эспаньол» – «Атлетико». **21.15** Дрим Тим. Интер / Кот-д'Ивуар. **21.40** Футбол. Чемпионат Испании. «Сельта» – «Барселона». **23.45** Футбол. Чемпионат Италии. «Ювентус» – «Торино».

### ВОСКРЕСЕНЬЕ

**1.30** Дрим Тим. Нидерланды / Африка. **2.00** Дрим Тим. Кубок Дэвиса / Кубок Федерации. **2.30** Дрим Тим. Гольф. **3.00, 19.15** Хоккей. НХЛ. **6.00** Бессмертные. Конте / Фабрегас / Туре / Миура. **6.30** Футбол. Чемпионат Испании. «Сельта» – «Барселона». **8.15, 21.15** «Сетанта Спорт». **8.30** Бессмертные. Неймар / Гиггз / Тьерри / Клинсманн. **9.00** Бессмертные. Мейвезер / Фрейзер / Форман. **9.30** Вечер UFC. Оттава. **12.30** Дрим Тим. Бокс. **12.55** Футбол. Чемпионат Испании. «Хетафе» – «Жирона». **15.00** Футбол. Чемпионат Италии. «Удинезе» – «Интер». **16.45** Бессмертные. Гвардиола / Агуэро / Погба / Гризманн. **17.10** Футбол. Чемпионат Испании. «Реал Мадрид» – «Вильярреал». **21.25** Футбол. Чемпионат Италии. «Наполи» – «Кальяри». **23.30** Футбол. Чемпионат Италии. «Эмполи» – «Фиорентина».

# Не аддзяляла журналістыку ад літаратуры. А варта было!

## Пісьменніца з Маладзечна – пра горад дзяцінства, каханне і творчасць

**Днямі свой юбілей адсвяткавала ўраджэнка Маладзечна, пісьменніца, журналіст Тамара Бунта (Міжыгурская). Для чытачоў «Рэгіянальнай газеты» Тамара Пятроўна прыгадала горад свайго дзяцінства, мясцовую школы №3 (цяпер гімназію), працу ў журналістыцы.**

МАЛАДЗЕЧНА

### Бацькі

Бацька Тамары Пятроўны, **Пётр Дзям'янавіч Міжыгурскі**, родам з вёскі Сівіца, што за Беніцай. Але Сівіца – гэта ўжо Смаргонскі раён.

Маці, Марыя Рыгораўна Ткачова, з Мсціслаўшчыны.

– Іх вёску Дудчыцы немцы пры адступленні спалілі. Маці адразу пасля вызвалення ад фашысцкай акупацыі паступіла ў Мсціслаўскае педвучылішча. Ёй тады было 20 год. Сяброўкі ўжо ішлі замуж, а маме вельмі хацелася вучыцца. На пачатку 1950-х гадоў яна прыехала настаўніцай у Сівіцу, там пазнаёмілася з маім бацькам, выйшла замуж і назаўсёды засталася жыць у Заходняй Беларусі, – прыгадвае пісьменніца.

### Маладзечна

У сярэдзіне 1950-х Міжыгурскія пераехалі ў Маладзечна. Пётр Дзям'янавіч пабудаваў хату на завулку Куйбышава (цяпер – вуліца Святаянская). Успаміны дзяцінства для спадарыні Тамары звязаныя з гэтым кутком:

– Наш раён калісьці называлі Пяскі. І сапраўды, вуліца была пясчаная ўлетку і гразкая, уся ў лужынах, увесну і ўвосень. Яе засялялі выхадцы з вёсак – людзі простыя, усе аднолькава бедныя, у большасці шматдзетныя. А няма лепшага шчасця, чым жыць сярод роўных табе! Таму дзяцінства, якое прайшло на завулку Куйбышава, засталося цёплым успамінам і ў маёй памяці, і ў маёй душы. Бацькі ўвесь дзень працавалі. А нас дзе толькі чорт не насіў – і на рэчку, і за рэчку, і па непралазных кустах, і па нейкіх будоўлях!.. І ніхто за нас не баяўся: бацькі сварыліся толькі за тое, што мы забываліся своечасова прыйсці дадому, каб паабедаць.

Дзіцячыя ўспаміны потым ляглі ў аснову аўтабіяграфічнай кніжкі Тамары Бунты «Дзяўчынка з Вішнёвага завулка».

### Школа №3

У сем год Тамара Міжыгурская пайшла ў сярэднюю школу №3. Вучылася добра. Школа – спецыяльная, французская.

– Ад пачатковых класаў мы вывучалі не толькі французскую мову, але і літаратуру, гісторыю, геаграфію Францыі. У нас былі добрыя і моцныя настаўнікі-прадметнікі: настаўніца матэматыкі **Іда Сямёнаўна Драбкіна**, настаўнік малявання і чарчэння **Павел Пятровіч Купрэвіч**, настаўніцы замежнай мовы **Кацярына Іванаўна Кур'янчык**, наш класны кіраўнік, і **Людміла Уладзіміраўна Доўнар**. Потым яна стала дырэктарам, – згадвае пісьменніца школьныя гады.

Прызнаецца, што настаўніцу рускай мовы і літаратуры **Генрыету Міхайлаўну Чэпікаву** называе «мае ўніверсітэты».

Дзякуючы гэтай настаўніцы пасля школы выпускніца абрала прафесію журналіста. Клас у нас быў моцны, асабліва хлопчыкі – разумныя, культурныя, прыстойныя, кажа Тамара Пятроўна і дадае, што яшчэ ў школе зразумела: мужа далёка шукаць на трэба:

– У 1979 годзе выйшла замуж за свайго аднакласніка, **Мікалая Бунта**, курсанта ваеннага вучылішча. Праз год разам з ім, ужо лейтэнантам, паехала ў Падмаскоўе, у лясны гарнізон. І потым амаль паўтара дзесяцігоддзя ездзіла за мужам-афіцэрам па ваенных гарадках. Вядома, працаваць па спецыяльнасці ў той час мне не даводзілася. На радзіму мы вярнуліся ў 1994 годзе.

### Першы твор

Першае апавяданне мая гераіня напісала напрыканцы 1970-х, ужо пасля заканчэння школы. Твор надрукавала мясцовая раёнка. У той час пры рэдакцыі плённа працавала літаб'яднанне «Купалінка», якім кіравалі гісторык **Генадзь Каханоўскі** і маладзечанскі паэт **Уладзімір Давыдаў**.



Фота забяспечанае Тамарай БУНТАЙ.

Злева направа: Галя Рыняк, Воля Вайніловіч, Тамара Міжыгурская і Таня Кузняцова.

Пачаткоўцаў яны вучылі, як пісаць апавяданні і вершы, разбіралі творы, давалі заданні. Збіраліся паэты **Кастусь Цыбульскі**, **Ала Клемянок**, **Настасся Наркевіч**, **Давід Юдовін**, **Марат Баскін**, якія цяпер жыве ў ЗША... Часта прыходзіў **Мікола Ермаловіч**.

### Журналістыка

У журналістыку мая гераіня, на яе думку, прыйшла позна – у 37 год.

Пайшла ў ваенную прэсу – на паўстаўкі. Пісала пра ветэранаў вайны, афіцэрскіх жонак. А праз тры гады запрасілі ў часопіс «Алеся» намеснікам галоўнага рэдактара.

Тут Тамару Пятроўну ведалі даўно. Калі яна, жонка вайскоўца, жыла па-за межамі Беларусі, паўсюль не толькі выпісвала гэты часопіс, але і пастаянна пісала па-беларуску.

Прызнаецца, што было страшна без вялікага досведу ісці на такую пасаду, але адважылася. А праз тры гады стала галоўным рэдактарам «Алесі».

– Наша крэда было: паказваць кожную беларускую жанчыну – і работніцу, і сялянку, і навукоўку, і бізнесвумэн, і настаўніцу, і артыстку, і мастачку, і народную майстрыху, і сціплую бібліятэкарку, і вясковую паштальёнку, і гаспадыню, і шматдзетную маці, – як асобу, – прыгадвае Тамара Пятроўна журналісцкую працу.



У кнігу «Дзяўчынка з вішнёвага завулка» ляглі ўспаміны пра дзяцінства ў Маладзечне.

### Першая кніжка

Хоць усё жыццё Тамара Бунта пісала апавяданні, першую кніжку выдала ў 55 год. Проста ніколі не аддзяляла пісьменніцкую творчасць ад журналісцкай, прызнаецца яна. А цяпер перакананая: трэба было аддзяляць:

– Каб працягвала працаваць у часопісе, мае кніжкі для дзяцей наўрад ці пабачылі б свет!.. Думкі цалкам былі занятыя «Алесяй». Калісьці я лічыла, што праца ў часопісе для жанчын – найлепшы перыяд майго творчага жыцця. Аказваецца, не. Сённяшні перыяд – цікавейшы за папярэдні. Я шмат сустракаюся з дзецьмі, пішу для іх і атрымліваю шчыры, жывы водгук на свае кнігі. І надалей збіраюся пісаць для дзяцей.

### 60

– Што для мяне 60 год? Пакуль не разабралася. Адчуванні тыя ж, што і ў 55, і ў 50... Планаў, сюжэтаў у галаве – велізарная колькасць! Энергіі, здаецца, таксама хапае. Але ўсё ж такі розум падказвае, а жыццё паказвае: час хуткацечны, рассольваць няма калі. Трэба пісаць, пакуль Бог дае сілы! Буду!

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

---

● КАЛЯНДАР

### 26 КРАСАВІКА

**Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986 г.)**

**1883.** У Варшаве памёр **Напалеон Орда**, піяніст, кампазітар, мастак, удзельнік паўстання 1830-1831 гадоў.

**1964.** У Маладзечне адкрыўся Мінскі абласны краязнаўчы музей (заснаваны 8.07.1959 г.).

### 27 КРАСАВІКА

**1878.** Нарадзіўся **Станіслаў Любіч-Маеўскі**, грамадска-культурны дзеяч, педагог. Расстраляны фашыстамі ў снежні 1941 года. Нейкі час быў дырэктарам гімназіі ў Вілейцы. Выдаў больш за 13 падручнікаў па гісторыі, геаграфіі, беларускай і польскай мовах, але найбольшую вядомасць набыў яго беларускі буквар «Лемантар».

**1917.** У Варшаве памёр **Лазар Заменгоф**, доктар-акуліст, вынаходнік мовы эсперанта, які нарадзіўся ў Беластоку і ў 1893–97 жыў у Гродне.

**1945.** Беларусь прынята ў склад сяброў-заснавальнікаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

### 28 КРАСАВІКА

**1918.** Народны Сакратарыят Беларусі зацвердзіў беларускую мову ў якасці дзяржаўнай і абавязковай у Беларускай Народнай Рэспубліцы і прыняў пастанову аб адкрыцці ў Мінску ўніверсітэта.

### 29 КРАСАВІКА

1921. Нарадзіўся **Мікола Ермаловіч** (в. Малыя Навасёлкі, цяпер Дзяржынскі раён), гісторык, літаратуразнавец. Жыў у Маладзечне.

**2002.** Памёр **Ігар Гермянчук**, грамадска-палітычны дзеяч, галоўны рэдактар газет «Свабода» (1991-1997 гг.). «Навіны» (1998-1999 гг.), часопіса «Кур'ер» (2000-2002 гг.).

### 30 КРАСАВІКА

**1998** (ці 29 красавіка). У Нью-Ёрку памёр **Вітаўт Тумаш**, медык, грамадскі дзеяч, скарынязнаўца, дзеяч эміграцыі ў Германіі і ЗША. Нарадзіўся 20 снежня 1910 года ў в.Спягла, цяпер Вілейскі раён.

### 2 МАЯ

**1897.** Нарадзіўся **Андрэй Капуцкі** (г. Маладзечна), беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, пісьменнік, публіцыст. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, якая ў снежні 1923 г. уступіла ў Кампартыю Заходняй Беларусі (КПЗБ). Пад псеўданімам Язэп Пралеска выдаў зборнік апавяданняў «Паноў трэба знішчаць гуртам» (1932). Расстраляны 17.05.1934.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

**Анхела**

**Чаму 26-гадовая іспанка Анхела Эспіноса Руіс, якая жыве на поўдні Іспаніі, вырашыла стаць пастаянным аўтарам «Рэгіянальнай газеты»? Чаму яна лічыць вас, чытачоў «РГ», сваімі сябрамі? Чытайце першы выпуск калонкі! Магчыма, вы зможаце пераняцца захапленнем Анхелы беларускай мовай і зразумееце, чаму адной з яе мэтаў стаў прыезд у наш рэгіён, які мы разам можам наблізіць.**

# Я стала занадта беларускай для Іспаніі

**Якія нечаканыя супадзенні, нестандартныя здарэнні і капрызы лёсу былі патрэбныя дзеля таго, каб (не)звычайная іспанская грамадзянка патрапіла да вас на гэтыя старонкі? Баюся, было б цяжка скласці дакладную храналогію, сувязі між прычынамі і эфектамі і, асабліва мне, чыстаму гуманітарыю, высвятліць статыстыку.**



Анхела Эспіноса Руіс на пляжы ў Малазе.

Затое магу сказаць пару рэчаў з адноснай упэўненасцю: па-першае, я дужа радая, што маё жыццё давяло мяне цяпер да супрацоўніцтва з вамі; па-другое, мяркую, усё-ткі варта падзяліцца з вамі скарочанай версіяй сваёй гісторыі.

Я заўжды думала, што чытачы – гэта такая катэгорыя сяброў, асабліва ў публіцыстыцы. І я чула, што газету сапраўды чытаюць, не толькі гартаюць ці выкарыстоўваюць для забойства мух, і таму трэба сказаць пару (тысяч?) слоў пра сябе.

Я нарадзілася вельмі далёка ад Беларусі, у горадзе Малага, што на поўдні Іспаніі, і ў мяне былі ўсе магчымасці правесці спакойнае жыццё, ніколі не запомніць, дзе Беларусь на мапе (мне сорамна, але далёка не ўсе іспанцы пакажуць), хадзіць на працу і памерці без дадатковых клопатаў... Буду шчырай – я заўжды жыла ва ўцёках. Куды? Ад чаго? А хто мяне ведае, але я марыла пайсці крыху далей, пабачыць яшчэ нешта, навучыцца глядзець на сябе і на свет чужымі вачыма.

У дзяцінстве я спяшалася. Навучылася чытаць у два гады, насуперак мацi, і ніколі больш не кінула кніг; пайшла ў музычную школу і пачала самастойна вывучаць мовы з думкай аб тым, што яны ў будучыні спатрэбяцца і не будзе часу займацца.

**Можа, гэта ад таго, што я ледзь не памерла двойчы да пяцігадовага ўзросту. А можа, такая генетыка мне дасталася.**

Калі мне было 15 гадоў, да маёй школы дайшла інфармацыя пра стыпендыю Дзяржпартамента ЗША: гэта быў летні семінар, як яны пісалі, «для маладых дыпламатаў», гэта значыць, для школьнікаў, якія цікавяцца культурнымі абменамі, міжнароднымі адносінамі і ўсякай такой тэматыкай. Там было адно месца на ўсю краіну, і абяцалі неверагодны досвед у амерыканскім універсітэце, паездкі ў Вашынгтон і Філадэльфію, новыя знаёмствы на ўсё жыццё. Я рыхтавала спіс аргументаў, каб бацькі дазволілі падаць заяўку. Яны мяне амаль нікуды не пускалі адну, моцна хваляваліся, калі ўсё ж хадзіла куды-небудзь. А тут адразу дазволілі. Таму што там было адно месца на ўсю краіну. Іх логіка была пабудаваная на ідэі, што будзе лягчэй дазволіць мне падацца, і каб Дзяржпартамент адмовіў, чым спрачацца са мной. У мяне складаны характар. І тут здарылася першая неспадзяванка – мяне выбралі.

У Паўночнай Караліне было ўсё, як абяцалі: і заняткі былі крутыя, і паездкі пладавітыя, і, самае галоўнае, пазнаёмілася з цікавымі людзьмі.

**Як аказалася, гэты праект мае мэту наблізіць Усход і Захад, і таму было шмат студэнтаў з краін постсавецкай прасторы (у тым ліку, як можаце здагадацца, – з Беларусі).**

Праз год арганізавалі афіцыйную сустрэчу ў Балгарыі, туды прыязджалі ўдзельнікі за апошнія тры гады праграмы. Так склалася, зноў выпадкова, што ў мяне засталося некалькі добрых беларускіх сяброў. Менавіта яны сталі маім першым кантактам з беларускай культурай, музыкай, літаратурай... Мова была пазней – сябры тады валодалі толькі на школьным узроўні.

Час ішоў, я паступіла на славянскую філалогію і, дзякуючы міжнароднаму журналісцкаму конкурсу па беларускай тэматыцы (у якім я нейкім цудам перамагла), мяне запрасілі ў Варшаву ў 2012 годзе.

**Акурат там я ўпершыню апынулася ў цалкам беларускамоўнай кампаніі інтэлігентных людзей (былі там журналісты, літаратары, культурніцкія актывісты) і, так бы мовіць, закахалася ў беларускую мову. Я ўжо тады ведала, што менавіта ёй хачу прысвяціць сваё жыццё.**

Не глядзіце на мяне так: я разумею, што гэта гучыць пафасна, затое я шчыра!

Па вяртанні на радзіму я пачала збіраць матэрыялы для вывучэння беларускай мовы. Аказалася, гэта было не так проста, як я думала, хаця ў 2012 годзе ў мяне ўжо быў нават смартфон. Матэрыялаў амаль не было. І тое, што было – усё на рускай мове, якую я ведала прымальна, але далёка не дасканала. Варта сказаць, што я амаль год збірала кнігі, курсы і практыкаванні і толькі ў 2013 годзе пачала сур'ёзна займацца беларускай мовай.

Праз некалькі месяцаў я завяла блог (цяпер мёртвы) дзеля моўнай практыкі, пачала пісаць нейкія вучнёўскія вершыкі. Я заўжды так раблю, калі вывучаю новую мову, для адчування яе асаблівасцяў. Не ведаю, як вы, а я шукаю свой голас праз паэзію. Праўда, ніколі не думала падаваць свае тэксты ў друк да таго, як беларусы пачалі прасіць. Мае вершы раптоўна і нечакана заўважылі людзі, якія вельмі актыўныя ў беларускай культуры. **Алесь Мазанік** і **Глеб Лабадзенка** паказалі мой блог **Рыгору Барадуліну**, як і маю песню на словы яго верша «Трэба дома бываць часцей». Дзядзька Рыгор, у сваю чаргу, ухваліў – нават даслаў кніжку з аўтографам незадоўга да сваёй смерці. Гэта падштурхнула яшчэ аднаго літаратара, **Алеся Плотку**, прапанаваць мае вершы на друк газеце «Новы час». Потым папрасілі нізку для «Маладосці», а крыху пазней **Міхась Баярын** паспрыяў дапісанню і выданню майго першага зборніка пад назвай «Раяль ля мора». Далей, можа, вы ведаеце, як пайшло. Людзі чамусьці захапіліся творчасцю паліглоткі-аматаркі, і ну, вось тут і я. Выпадкова.

Не скажу, што гэта заўжды было лёгка. У мяне больш-менш пастаяннае адчуванне, што я жыву двайным жыццём: у беларускіх і іспанскіх знаёмых цалкам адрозныя жыццёвы досвед, культурны кантэкст, светаўспрыманне.

**А я з часам стала занадта беларускай для Іспаніі, і ўсё ж недастаткова беларускай для Беларусі.**

Словамі вялікага **Лявона Вольскага**, «і тут ты чужы, і там ты чужы». Сустракалася з прадузятасцю людзей, хто скептычна ставіцца да экзафонных пісьменнікаў (і да замежнікаў у беларускай культуры ў цэлым), зайздрасцю, скандаламі, у якіх не хацела прымаць удзел, і іншымі непрыемнасцямі. Але я схлусіла б, калі б сказала, што негатыў пераважаў.

Кожная мова – новы сусвет, са сваімі таямніцамі і ўласным багаццем. А беларуская мова адкрыла перада мной вялікую колькасць новых магчымасцяў: мне быў дадзены шанец паглядзець на Беларусь сваёй оптыкай і выказаць свае пачуцці на беларускай мове, а таксама пачуць іншых «у арыгінале». Мне дасюль слаба верыцца, што я стала актыўнай часткай развіцця беларушчыны, што пазнаёмілася (і нават перайшла на «ты») з такімі неверагоднымі і важнымі для Беларусі людзьмі. Я была ў Беларусі некалькі разоў і змагла размаўляць з людзьмі на роднай ім мове. А цяпер, натуральна, з'явілася новая мэта: прыехаць да вас, у ваш рэгіён, каб наблізіць да новых сяброў – чытачоў «Рэгіянальнай газеты». Абяцаю гэта зрабіць як мага хутчэй, а пакуль што – радая знаёмству!

**Анхела Эспіноса РУІС.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

Анхела Эспіноса Руіс (ісп. Ángela Espinosa Ruiz) нарадзілася 6 лютага 1993 года ў Малазе (Іспанія). Скончыла факультэт славянскай філалогіі Гранадскага ўніверсітэта (2015) і атрымала ступень магістра беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце (2017). Цяпер аспірантка Універсітэта Комплутэнсе ў Мадрыдзе.
Аўтарка лірычных зборнікаў «Раяль ля мора» (2015), Pomme de ciel (2017), «Колер крылаў» (2019), перакладчыца двухмоўнага зборніка выбраных вершаў М. Багдановіча на іспанскую мову «Згукі маёй Бацькаўшчыны» / Ecos de mi tierra (2017).
Фіналістка конкурсу «Экслібрыс» імя Р. Барадуліна (2015), прэміі «Дэбют» імя М. Багдановіча (2016). Лаўрэатка конкурсу сучаснай паэзіі фонду Роберта Боша (2017), Міжнароднага конкурсу маладых літаратараў «Першацвет» (2019), прэміі імя М. Стральцова (2019).

# Скачыце ўволю! Зноў ладзяць ноч танцаў «У маёвым садзе»

## Трэцяе фолкавае танцавальнае спатканне збірае на хутар «Засценак Скрыплеў» на Валожыншчыне

**Ці змаглі б вы ўсю ноч танцаваць пад жывую музыку на хутары? Зоркі, вясновы сад, прыгожыя ўборы і непараўнальная кампанія. Самыя майскія беларускія танцы чакаюць вас у Валожынскім раёне 8-9 мая.**



Фота з архіва «РГ».

Леташняя ноч танцаў «У маёвым садзе».

На хутары «Засценак Скрыплеў» адбудуцца трэція фолкавыя танцавальныя спатканні «У маёвым садзе». Сёлета чакаецца шмат новага.

Гаспадары запрасілі гасцей з Польшчы – гурт «Хлопцы з Навашышак», якія іграюць музыку Сувальшчыны, земляў блізкіх да беларускай Гродзеншчыны. Дамовіліся, што прыедзе ўкраінскі гурт «Сільска музыка» з горада Роўна, якія выконваюць музыку Палесся. Чакаюць музыкаў са Славакіі «Бачарска Трыа», што значыць «Тры пастухі». Гэта выканаўцы музыкі Татранскага горнага краю.

Безумоўна, да гэтай ночы далучацца беларускія музыкі – «Капэля» Алеся Лася, гурты «На таку», «Мярэжа», «Колесніе», «Варган», музычныя дуэты і іншыя.

Запрасілі музыкаў і даўніх гасцей-танцораў з Гродна, Брэста, Любані, Барысава, Вілейкі, Полацка, Ліды. Традыцыйна возьмуць удзел сябры з маладзечанскага этнаграфічнага аб'яднання «Кола», якія маюць статус першых партнёраў і суарганізатараў фэста. Вядучым фэста будзе журналіст, тутэйшы па паходжанні – **Анатоль Шырвель**.

### Што акрамя танцаў

Падчас фэсту будзе працаваць хутарская карчма «Прысмакі ад Браніславіча» – тут можна падсілкавацца поліўкай, крупнікам, печанымі кілбаскамі, салатамі, будзе меню для вегетарыянцаў. Цягам танцаў можна будзе спаталіць смагу ўзварамі і гарбатай.

Танцоры, якія збіраюцца правесці ўсю ноч, могуць узяць намёты і размясціцца на тэрыторыі кемпінга хутара з доступам да простых, але неабходных выгодаў – вада, прыбіральні, паркінг для машыны. Намёт, калі няма свайго, можна ўзяць напракат па папярэдняй замове на хутары.

### Што апрануць

Нашы просьбы і пажаданні вельмі сціплыя. З аднога боку, мы вітаем усіх у традыцыйных строях.

А з іншага, просім, каб дзяўчаты хаця б былі ў спадніцах.

### Што па цэнах

Ноч танцаў – гэта не канцэрт, а форма агратурызму. З усімі гасцямі будуць заключаныя дамовы па паслугах у галіне агратурызму. Каб пазбегнуць марнавання часу, вельмі важна зарэгістраваць свой удзел, пераслаўшы нам пашпартныя дадзеныя асобы, з кім заключаецца дамова, і колькасць спадарожнікаў. Рэгістрацыя і папярэдняя дамова важная тым, хто лічыць грошы. Цэны наступныя:

- да 20 красавіка – 15 руб./асоба з рэгістрацыяй
- ад 21 красавіка да 7 мая – 20 руб./асоба з рэгістрацыяй
- 8 мая – 30 руб./асоба з рэгістрацыяй па факце.

Падчас рэгістрацыі да 7 мая будзе «панскі дадатак» – для тых, хто хацеў бы замовіць альбо асобны столік, альбо адмысловыя прысмакі. Такая паслуга абмяркоўваецца асобна і каштуе ад 15 рублёў на асобу і вышэй.

Грошы пасля заключэння дамовы можна будзе даслаць праз сістэму АРІП, па дадзеным у дамове рахунку.

### Як трапіць бясплатна

Ёсць абмежаваная магчымасць узяць удзел у мерапрыемстве і задарма, але ўзамен на валанцёрства. І калі такія ахвочыя ёсць – просім дасылаць аб сабе інфармацыю.

Перавага аддаецца хлопцам, якія ўмеюць валодаць будаўнічымі інструментамі ці ў стане рабіць фізічныя працы па канчатковай падрыхтоўцы тэрыторыі. Што да дзяўчат, то тут спатрэбяцца тыя, якія дапамогуць спраўляцца па кухні альбо дапамагаць інфармацыйнай службе. Усё абмяркоўваецца пасля напісання пісьмовай заяўкі.

### Паспяшайцеся!

Танцавальныя спатканні маюць клубны статус, абмежаваную колькасць удзельнікаў – да 100 чалавек. Гэта колькасць адпавядае маштабам тэрыторыі нашага хутара.

У гэтым годзе мы ўводзім забарону на цыгарэты. Для тых, хто курыць, будзе адведзеная спецыяльная пляцоўка. За парадкам будуць весці назіранне ўнутраная дружына бяспекі. На тэрыторыю ночы танцаў не будуць дапускаць асоб у нецвярозым стане.

Да ведама гасцей, якія маюць час на наступны дзень – можна скарыстацца магчымасцямі аграсядзібы «Засценак Скрыплеў» – сплывам на каяках па рацэ Заходняя Беразіна, арэнда ровараў, замова лазні, розныя актыўныя гульні, лучны цір.

Арганізатары ночы танцаў «У маёвым садзе-3» вераць і спадзяюцца, што чарговыя танцавальныя спатканні добра запомняцца гасцям.

**Васіль ГРЫНЬ, гаспадар сядзібы і аўтар праекта.**

### Прыблізная праграма ночы танцаў

*8 мая*

12:00. Заезд удзельнікаў.

14:00–14:20. Пачатак спатканняў.

14:20–16:00. Канцэртная праграма з выступленнямі гуртоў-удзельнікаў.

16:00–17:00. Вольная гадзіна, час падсілкавацца, адпачыць.

17:00–19:00. Майстар-класы па польскіх, украінскіх і славацкіх танцах.

20:00. Пачатак ночы танцаў. Музыкі будуць іграць па чарзе ў адпаведнасці са сваім часам.

*9 мая*

01:00. Фолк-джэм, дзе музыкі могуць іграць змешана, на замовы танцораў.

Як паказала практыка, завяршэнне ночы танцаў звычайна супадае са світаннем, апошнія акорды гучаць са спевамі салаўёў.

Рэгіструйцеся:
(8-029) 151-01-87
Info1@greenteam.by
Месца правядзення – аграсядзіба «Засценак Скрыплеў», Валожынскі раён.



Падчас імпрэзы выступаў ансамбль народнай музыкі Маладзечанскай дзіцячай школы мастацтваў «Самагуды» пад кіраўніцтвам Сяргея Ярука.

# Адкрыты балкон, квэст-рум і выступленне кінолага. Як адзначылі бібліяноч у Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

**18 красавіка ў Маладзечне ў бібліятэцы сямейнага чытання «Верасок» зладзілі бібліяноч «Таленты ад роднай зямлі».**

Перад уваходам у бібліятэку працаваў буккросінг. Ахвотныя маглі ці проста ўзяць любую кнігу, ці абмяняць яе на сваю. У фае на працягу бібліяночы ахвотным бясплатна рабілі аквагрым. Тут жа можна было сфатаграфавацца насупраць адной з некалькіх фотазон – «каміна з агнём».

Асноўныя падзеі адбываліся на другім паверсе. Навучэнцы Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа ў канферэнц-зале паказвалі калекцыю мадэляў адзення сучаснага і нацыянальнага стыляў.

Ахвотныя маглі паглядзець разнастайныя выставы. Напрыклад, «Я раскажу вам пра вайну…» – інтэрактыўную выставу-паведамленне да 95-годдзя з дня нараджэння **Васіля Быкава**.

Падчас бібліяночы працаваў квэст-рум «Літаратурныя вандроўкі па Беларусі». Удзельнікам трэба было на гадзіну пераўвасобіцца ў бібліятэкара і выканаць умоўныя тэматычныя запыты чытачоў па гісторыі і літаратуры Беларусі. Пры гэтым неабходна было адгадаць шыфры, выкарыстоўваючы бібліятэчныя фонды і падказкі, схаваныя ў кнігах.

Падчас сустрэчы ў бібліятэку першы раз завітала «Жывая бібліятэка». «Кнігі» гутарылі з ахвотнымі ў зале літаратуры на замежных мовах. Акцёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра **Алег Чэчанеў** дзяліўся досведам працы ў тэатры. Мастачка **Наталля Чырвонцава** паказала, як правільна рабіць выцінанку. Мастак **Bazinato** развеяў стэрэатыпы, звязаныя з мастацтвам – напрыклад, расказаў, наколькі важна смела эксперыментаваць і не ісці на кампрамісы.

Падчас мерапрыемства на пляцоўцы ля «Вераска» гледачы пабачылі выступленне міліцыянера-кінолага Маладзечанскага аддзела Дэпартамента аховы МУС РБ. Службова-вышуковы сабака **Джэсі** даваў лапу, шукаў у траве пэўныя рэчы, лажыўся і прыбягаў на кліч «да мяне». Джэсі два гады і сем месяцаў. Калі дзеці ўсе адразу сталі яго гладзіць, сабака трохі спалохаўся. Таксама ахвотныя змаглі прымерацца шлем і бронекамізэльку, пасядзець і сфатаграфавацца ў міліцэйскай машыне, навучыцца збіраць і разбіраць зброю.

Адной з цікавостак мерапрыемства стаў праект «балкON», які зладзіў пілотнае адкрыццё балкона бібліятэкі. Каманда праекта разам з валанцёрамі стварылі лаўкі з палет, заслалі дыван, паставілі музычнае абсталяванне.

Даведка «РГ»: Праект «балкON» адкрывае дахі і балконы ў грамадскі доступ для азелянення і стварэння новай крэатыўнай прасторы з наступным правядзеннем на ёй культурна-масавых мерапрыемстваў. Прайшоў у паўфінал конкурсу сацыяльных праектаў Social Weekend 13.

На балконе выступаў ансамбль народнай музыкі Маладзечанскай дзіцячай школы мастацтваў «Самагуды» пад кіраўніцтвам **Сяргея Ярука**. Напрыканцы вечара пад гітару спявалі «Маю абарону» і «Як на вайне». На балконе нават вадзілі карагоды – сюды завітала вядоўца Спеўнага сходу **Воля Трубач**. А яшчэ гледачоў частавалі бясплатным чаем, які можна было абраць на свой густ.

**Таццяна КАСЬЯН. Фота аўтара.**

Больш фота – **на rh.by!** Адсканіруйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **http://bit.ly/biblijanoch**





Фота забяспечанае Вольгай ЖАРСКАЙ.

Андрэй Лук'яновіч на рабочым месцы.

# «Не злётаў у тыдзень хоць раз –

## Як ураджэнец Смаргоні стаў камандзірам авіяцыйнай базы ў Мачулішчах

**З Андрэем Лук'яновічам мы сустракаемся на авіяцыйнай базе пад Мінскам. Ён – палкоўнік, ваенны лётчык-снайпер, камандзір 50-й змешанай авіяцыйнай базы. Экскурсію па часці можна пачынаць ужо з яго кабінета: тут Андрэй Юльянавіч сабраў калекцыю мадэляў самалётаў, звязаных з яго жыццём і з жыццём авіяцыйнай базы.**

Навокал ужо кіпіць праца: база рыхтуецца да майскіх святаў. На ўзбраенні часці – вайскова-транспартныя самалёты і верталёты, многія з якіх не маюць аналагаў у свеце. Менавіта іх мы бачым у небе падчас паветраных парадаў у Мінску.

Вайскоўцы знаходзяць час, каб паказаць базу з іншага боку: тут ёсць унікальны самалёт-музей, драўляная капліца, алея Герояў, мемарыял аэрадрому, вялікі яблыневы сад і пчальнік.

> **І кіруе гэтым усім ураджэнец нашага рэгіёна, які пабачыў першы ў сваім жыцці самалёт менавіта пад Смаргонню.**

### Лётчыкам стаў толькі дзякуючы касманаўту Уладзіміру Кавалёнку

**– Дзе вы ўпершыню пабачылі самалёт? Якія гэта былі эмоцыі?**

– Гэта было летам у бабулі. Сам я вырас у Смаргоні, хадзіў у школу №2. Але ўсе летнія канікулы праводзіў у бабулі – у вёсцы Сыраваткі, на хутары Зялёны Луг. Тады ў нашым раёне вельмі актыўна выкарыстоўвалася ваенная авіяцыя.

> **Над намі пастаянна лёталі знішчальнікі, пераходзілі на звышгук. Шыбы ў вокнах звінелі!**

Я зачаравана глядзеў у неба і разумеў, што лётчык – вельмі прыгожая прафесія. Але яна была такой недасягальнай.

**– І ўжо ў дзяцінстве вы зразумелі, што без самалётаў не зможаце?**

– Так, вельмі захацелася ў лётчыкі. І ўжо ў ваенкамаце, калі праходзілі першую камісію, я сказаў пра гэта. Тады ў мяне запыталіся – ці быў нехта ў сям'і лётчыкам? Я адказаў, што не, і мяне адразу папярэдзілі – «будзе складана». Але ж мэту перад сабой я ўжо паставіў.

**– Якімі былі першыя крокі?**

– Паступіў у Балашоўскае вучылішча ў Саратаўскай вобласці. Конкурс быў вялізны: здавалі рускую мову, матэматыку, фізіку і фізічную падрыхтоўку. Быў прафесійны адбор і медкамісія.

Калі паступіў, то памятаю, як у парыве эмоцый напісаў маме тэлеграму на палову ліста А4 – а ў ёй жа плацілася за кожны знак! Колькі было грошай, столькі і аддаў, такі быў шчаслівы.

Праз чатыры гады вучобы атрымаў першыя пагоны лейтэнанта. Спецыяльнасць – лётчык-інжынер, выпуск 1992 года. Гэта быў складаны час, перыяд развалу Савецкага Саюза.

**– Ці адбіліся на вашай кар'еры гістарычныя падзеі?**

– Так, бо выпуск нашага курса ўвогуле быў пад пытаннем. Ён стаў магчымым толькі дзякуючы генерал-палкоўніку авіяцыі лётчыку-касманаўту **Уладзіміру Кавалёнку**. Ён быў старшынёй дзяржкамісіі і асабіста прыняў рашэнне, каб выпуск адбыўся. Мы і цяпер з ім перасякаемся. Паколькі Кавалёнак – ганаровы лётчык нашай авіяцыйнай часці, за ім у Мачулішчах замацаваны асобны ложак, а таксама яго імя ёсць на алеі Герояў.

**– Куды вас завяло размеркаванне?**

– З гэтым мне пашанцавала. Я служыў у Забайкаллі, горадзе Улан-Удэ, на самалёце Ан-12. І ў 1995 годзе стаў камандзірам гэтага самалёта. Тады быў нялёгкі час. Заробку амаль не атрымлівалі – 15-20 долараў. Калі цяпер на гэта глядзіш, то разумееш – цяжка было. А тады так не ўспрымалася, мы маладыя былі. Тым больш, што побач заўсёды была жонка, Святлана. Усё ж сям'я – самае галоўнае ў жыцці. І тая, якая цябе выхавала, і тая, якую ты пасля стварыў сам.

**– Калі вы вярнуліся ў Беларусь?**

– У 2000 годзе, калі я быў ужо першакласным лётчыкам, пачаў служыць у Мачулішчах. Прайшоў усе пасады – ад памочніка да камандзіра авіяцыйнай базы.

### Служыў у Расіі, а жонку сустрэў у Смаргоні

**– Як атрымалася, што вас так пакідала па Расіі, а жонку ўсё роўна знайшлі ў роднай Смаргоні?**

– Адпачынак я праводзіў дома! Яшчэ бабуля мне казала: не бывае дзве радзімы, таму жонку лепей шукаць у родных мясцінах. У мяне так і атрымалася.

> **Увогуле два самыя галоўныя чалавекі ў маім жыцці – мама і жонка. Без іх не было б мяне і маёй кар'еры.**

Жонка працуе выхавальніцай у дзіцячым садку. І там дзеці, і дома дзеці. Цяпер чацверты раз «атрымоўвае» сярэднюю адукацыю – некалі сама адвучылася, а пасля з траімі дзецьмі праз гэта праходзіла. Дом – гэта тое месца, дзе я сапраўды адпачываю душой і целам.

**– Ці часта бываеце ў Смаргоні?**

– На жаль, не вельмі. Раз у квартал атрымоўваецца. Раней выбіраліся часцей, а цяпер служба не дазваляе. Вядома, там ёсць чым заняцца: дапамагаю маме па гаспадарцы, хаджу на Вілію рыбачыць.

**– Ваш старэйшы сын таксама звязаў жыццё з авіяцыяй. Ці шмат у гэтым рашэнні вашага ўплыву?**

– Ён скончыў Ульянаўскае вучылішча, грамадзянскую авіяцыю. Якраз на днях пачынае працаваць па першым кантракце. Вядома, я хацеў, каб сын стаў лётчыкам. Але гэта быў яго выбар. Лётчык – гэта прафесія, у якую з-пад палкі не загоніш. Цяпер мы з ім сталі нашмат бліжэй адзін да аднаго. Столькі новых тэм для абмеркавання – сама-



Андрэй Лук'яновіч з жонкай Святланай.



Андрэй Лук'яновіч з беларускімі касманаўтамі Пятром Клімуком (злева) і Уладзімірам Кавалёнкам.

Фота забяспечанае Андрэем ЛУК'ЯНОВІЧАМ.

# сем дзён выпалі з жыцця»

лёты, навігацыя, аэрадынаміка, усё на свеце!

**– А як ставяцца да авіяцыі малодшыя дзеці і жонка?**

– Малодшага сына да самалётаў не цягне. А дачка цяпер вучыцца ў тэхнічным універсітэце ў Берліне, спецыяльнасць – эканамічная інфарматыка. Так што ў сцюардэсы не пайшла.

> **У жонкі асаблівае стаўленне да авіяцыі – яна з такой любоўю і клопатам ставіцца да мужа, сына і нявесткі-пілота, што ўжо сама амаль стала членам лётнага экіпажа.**

**– З мінулага года вы не толькі камандзір, але і дэпутат Мачулішчанскай выбарчай акругі. Чаму вырашылі балатавацца?**

– Дапамагаць людзям – самая важная мэта любога чалавека. Хачу быць карысным для іншых, для гэтага мы ўсе і існуем.

## «Лётчыкі – сапраўдныя валадары часу»

**– Можаце прыгадаць свой першы самастойны палёт?**

– Гэта было выдатна! Зразумела, што гэта вялікая падзея.

> **Не кожнага пускаюць у самастойны палёт. А калі цябе дапусцілі і ты ўсё зрабіў правільна – зваротнай дарогі няма.**

Толькі вышэй. Эмоцыі перапаўнялі, вядома. Пасля першага палёту ёсць традыцыя падарыць пачку папяросаў інструктару, а таксама пачаставаць тых, хто дапамагаў падрыхтаваць палёт. Так я тады і зрабіў.

**– Цяпер часта падымаецеся ў неба?**

– Вельмі. Нават сёння, пасля нашай размовы, буду збірацца ў палёт. Калі ў тыдзень хаця б раз не злётаў – тыдзень выпаў з жыцця. Тое пачуццё, калі губляеш фізічны кантакт з зямлёй, – неверагоднае, яго ні з чым не параўнаць. І не апісаць. Нікому не шанцуе так, як лётчыкам.

> **Мы з неба бачым такія краявіды, такія ракурсы! Беларуская зямля вельмі прыгожая.**

**– Што самае прыгожае даводзілася бачыць?**

– Цяжка сказаць. Але ўсе лётчыкі ў нейкім сэнсе валадары часу. Напрыклад, палёт з Уладзівастока – гэта восем тысяч кіламетраў, і з-за розніцы ў часе наш дзень расцягваецца на адзінаццаць дадатковых гадзін.

> **Былі выпадкі, калі некалькі гадзін запар мы любаваліся захадам сонца. Хто яшчэ можа такое пабачыць, калі не лётчык?**

А світанкі ў палёце наадварот праходзяць вельмі хутка.

**– Як жа рэагуе арганізм на такія скачкі часу?**

– Медыкі ўсё палічылі. Калі мы перасякаем пяць гадзінных паясоў, то маем 48 гадзін адпачынку, каб аднавіцца.

**– Але ж праца лётчыка – гэта не толькі палёты. Што застаецца за кадрам?**

– Так, палёты – толькі вяршыня айсбергу. Ёсць яшчэ арганізацыя, выкананне і забеспячэнне палётаў, выкананне задач па прызначэнні. У іх прымае ўдзел увесь асабовы састаў базы – ад ваеннаслужачых тэрміновай службы да камандзіра. Таму а шостай раніцы я звычайна ўжо тут. А працягласць працоўнага дня залежыць ад пастаўленых задач.

**– Што вы больш за ўсё любіце ў сваёй прафесіі?**

– Яна ў мяне проста найлепшая, іншай такой няма.

## «Калі «лавілі» птушку, то даводзілася выключаць рухавік»

**– Ці ёсць у вас нейкія рытуалы, якія вы выконваеце перад палётам?**

> **– Так, напрыклад, абавязкова вітаюся з самалётам, бо ў кожнага лётнага судна ёсць душа. Да яго трэба дакрануцца, абысці яго.**

**– Ці здараліся ў вашай практыцы надзвычайныя сітуацыі ў небе?**

– На шчасце, нічога катастрафічнага. Тэхніка, з якой мы працуем, вельмі надзейная. Бывала такое, што «лавілі» птушку – яна трапляла ў рухавік і даводзілася яго выключаць. Нічога больш сур'ёзнага.

**– У вас не было жадання перайсці з ваеннай авіяцыі ў грамадзянскую?**

– Такіх прапаноў было вельмі шмат, асабліва калі я стаў камандзірам. Не сакрэт, што фінансавы складнік там больш унушальны. Але мяне не адпусціла пачуццё адказнасці за людзей, за авіяцыю. І не шкадую.

> **У нашай авіяцыі служаць толькі ідэйныя людзі. «Ёсць такая прафесія – Радзіму абараняць» – і гэта не гучныя словы, так яно і ёсць.**

З ваеннай авіяцыі часта пераходзяць у грамадзянскую, але гэта асабісты выбар кожнага.

**– З якімі эмоцыямі вы гледзіце фільмы пра лётчыкаў? Ці чапляецца прафесійнае вока за нейкія ляпы?**

– Бывае такое, асабліва ў сучасных фільмах. Гэта раней карціны здымалі гадамі, там былі добрыя кансультанты. І мы на такіх фільмах вучыліся. А тыя фільмы, што цяпер кляпаюць, – там хапае ляпаў. Але на адзін раз паглядзець – падыдуць.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

## Ашмянскія футбалісты саступілі пінчанам

АШМЯНЫ

Матч правялі 20 красавіка на стадыёне фізкультурна-аздараўленчага комплексу ў Ашмянах.

У першым туры чэмпіянату па футболе сярод камандаў другой лігі «Ашмяны-БДУФК» саступілі гасцям «ДЮСШ-3-Стэнлес» (Пінск) з лікам 0:1.

**Паводле vk.com/obfc_by.**

## Футбольны клуб «Ашмяны-БДУФК» прадставіў новы лагатып

АШМЯНЫ




Круглую форму новага лагатыпа ўзялі з першай гістарычнай выявы герба горада 1792 года. Адтуль жа і срэбраны колер, якім аздобілі контур лагатыпа.

Сімвал каманды захоўвае асноўныя элементы герба Ашмянаў і выкананы ў традыцыйным чырвона-сіне-белым спалучэнні колераў, якія сёння з'яўляюцца неад'емнай часткай горада, яго жыхароў, каштоўнасцяў і гісторыі.

Па дапамогу ў распрацоўцы эмблемы клуб звярнуўся да дызайнера і распрацоўшчыка клубнага стылю **Аляксея Янушэўскага**. Лагатып быў паспяхова прэзентаваны і падораны дызайнерам гораду і камандзе.

**Паводле vk.com/obfc_by.**

## Смаргонскія футбалісты саступілі бабруйчанам 4:1

СМАРГОНЬ

У першым дамашнім матчы 29-га чэмпіянату па футболе сярод камандаў першай лігі футбалісты «Белшыны» перамаглі ФК «Смаргонь».

Бабруйчане прынялі гасцей на стадыёне імя Пракапенкі 20 красавіка.

Адкрыў чэмпіянат у Бабруйску намеснік старшыні Асацыяцыі «Беларуская федэрацыя футбола» – **Міхаіл Вергеенка**, варатар «залатой» каманды мінскага «Дынама».

Наступная гульня смаргонцаў пройдзе 27 красавіка з ФК «Орша».

**Паводле vk.com/fcbelshina76.**

## Адкрылі рэгістрацыю на нацыянальныя спаборніцтвы па лоўлі рыбы

Сёлета ад мая да кастрычніка на вадаёмах Беларусі Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў планує арганізаваць і правесці нацыянальныя спаборніцтвы па чатырох дысцыплінах рыбалоўнага спорту: «Лоўля рыбы спінінгам з берага», «Лоўля рыбы спінінгам з лодкі», «Лоўля рыбы фідэрам» і «Лоўля рыбы летняй паплавочнай вудай».

Па выніках сфарміруюць зборныя каманды Рэспублікі Беларусь для ўдзелу ў чэмпіянатах свету па спартыўнай лоўлі рыбы, якія адбудуцца ў 2020 годзе.

Падрабязней можна прачытаць на сайце Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў.

**Паводле rgooboor.by.**

## У Гомелі падчас паўмарафону памёр сузаснавальнік «Крумкачоў» вядомы піяніст Юры Бліноў

Сузаснавальнік «Крумкачоў» **Юры Бліноў** памёр 21 красавіка падчас экамарафону ў Гомелі.

**Удзельніку забегу на 21 кіламетр да фінішу заставалася некалькі метраў.**

Дактары не змаглі аказаць дапамогу 43-гадоваму музыканту.

Юры Бліноў нарадзіўся ў Драгічыне. Атрымаў ступень доктара музычных мастацтваў у прэстыжнай Вышэйшай школе музыкі Істмэна (ЗША). Быў лаўрэатам буйных конкурсаў, у тым ліку першых прэмій Гран-пры Шапэна ў Тэхасе і Усеамерыканскага конкурсу піяністаў. Стаў першым беларускім піяністам, які выступіў з сольным канцэртам у адным з залаў Карнегі-хола.

**Увесну 2018 года стаў сузаснавальнікам зноў створанага «НФК «Крумкачы» (сёння НФК), які зараз выступае ў чэмпіянаце Беларусі па футболе сярод камандаў першай лігі.**

**Паводле «Нашай Нівы».**



Фота зафіксавання Андрэем РАГІНСКІМ.

Падчас матча маладзечанскі клуб разграміў смалявіцкі.

# ФК «Маладзечна» ў першым туры сезона разграміў Смалявічы

МАЛАДЗЕЧНА

**20 красавіка ў Чысці ФК «Маладзечна» ўпэўнена адкрыў сёлетні сезон.**

У першым туры другой лігі чэмпіянату Беларусі па футболе футбалісты перамаглі «СМІаўтатранс» са Смалявічаў з разгромным лікам 5:1.

Першы гол забіў дэбютант ФК «Маладзечна» нападаючы **Ігар Талькоўскі**. Наступнымі мячамі адзначыліся **Сямён Хаткевіч**, **Мікіта Дудо**, **Уладзіслаў Кнацько-Штэрк** і **Павел Галубовіч**.

Вынік матча – лепшы пачатак чэмпіянату ў 15-гадовай гісторыі знаходжання клуба ў другой лізе.

Наступны матч клуб згуляе 27 красавіка на выездзе з ФК «Клецк».

**Аддзел інфармацыі.**

## Хто з новых гульцоў будзе ў гэтым сезоне абараняць колеры ФК «Маладзечна»

*Заканчэнне. Пачатак у №16.*



**Ігар Талькоўскі**, 21.03.1993, нападаючы. Пасля гадавой адсутнасці ў складзе «Чысці» ён вярнуўся ў каманду і забіў першы мяч у сезоне 2019.



**Аляксандр Блінец**, 17.11.1993, паўабаронца. Раней выступаў за такія клубы, як «Слонім», «Вікторыя», «Асіповічы». У мінулым сезоне правёў 13 матчаў, забітымі мячамі не адзначыўся.



**Уладзіслаў Кнацько-Штэрк**, 01.07.1995, нападаючы. Раней Уладзіслаў выступаў за дубль жодзінскага «Тарпеда», за мінскі «Прамень», таксама згуляў некалькі матчаў за ФК «Крумкачы» ў вышэйшай лізе. Мінулы сезон нападаючы правёў у дублі «Смалявічаў», забіў 11 мячоў у 27 сустрэчах.

**Радзівон Субач**, 19.05.2000, варатар. Пасля гадавой паўзы выхаванец маладзечанскай ДЮСШ №4 зноў у камандзе. Мінулы сезон футбаліст правёў у ФК «Ашмяны-БДУФК», у складзе якога двойчы выходзіў на поле.





**Ніка Ламадзэ**, 15.04.1999, абаронца. У 2017 годзе правёў чатыры матчы ў складзе мінскага «Энергетыка-БДАТУ». Летась згуляў сезон у першынстве моладзевых камандаў за магілёўскі «Днепр», забіў чатыры мячы ў 29 сустрэчах.

Абараняць колеры клуба таксама будуць:

**Алег Страхановіч**, 13.10.1979, паўабаронца

**Мікіта Дудо**, 15.04.1995, паўабаронца

**Сяргей Галюк**, 22.06.1995, паўабаронца

**Павел Галубовіч**, 04.05.1994, паўабаронца

**Сяргей Дрозд**, 24.06.1983, абаронца

**Дзмітры Касцюк**, 08.07.1986, паўабаронца

**Сяргей Крот**, 27.06.1980, нападаючы

**Семён Хаткевіч**, 07.06.1998, абаронца

**Максім Чабрыцкі**, 22.05.1985, абаронца

**Алег Шкабара**, 15.02.1983, паўабаронца

**Аляксей Шчыпаў**, 09.11.1995, абаронца

**Аддзел інфармацыі.**
**Фота vk.com/fcmolodechno.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Выбарны прадстаўнік, член выбарнай дзяржаўнай установы.
2. Кіраўнік, начальнік; старэйшы ў сям'і.
3. Напішыце яшчэ адзін прадукт з шэрагу, з'яўленне якога – вынік кантралюемага псавання прадукту. Віно, хлеб, сыр, …
8. Што ў Заходнім Кітаі кладуць у чай змест цукру?
9. Сухія сцёблы злакавых раслін, якія застаюцца пасля абмалоту.
10. З легендарнага «Тытаніка» змаглі падняць больш за 5000 прадметаў, многія з іх пасля прадалі на аўкцыёнах. Гэты прадмет Уолес Хартлі прывязаў да сябе, каб не згубіць. Гэта быў падарунак ад нявесты. Як і іншыя яго калегі, ён карыстаўся гэтым прадметам да апошняй хвіліны, каб падняць дух пасажыраў у час трагедыі.
11. Назва герба першых уладальнікаў Смаргоні Зяновічаў.
12. Бязглуздзіца, бяссэнсіца, недарэчнасць; глупства.
17. Рыгор Барадулін: «Растаўшыся з апошняю …, Адчуеш, як сцюдзёна ў гэтым свеце.»
18. Вострая частка рэжучай ці сякучай прылады.
22. У гэтай афрыканскай краіне палова жыхароў – людзі да 15 год.
23. Асоба, па полу супрацьлеглая мужчыну.
24. Кожную хвіліну на планеце ўтвараецца яго 2500 тон.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Будынак для стаянкі і рамонту машын.
4. Адзін з прадпрымальнікаў, які спансіраваў пошукі рэчы на «Тытаніку», прадаваў невялічкія кавалачкі яго са знакамітага лайнера за 25 долараў і вельмі добра зарабіў.
5. Прадпрыемства, якое займаецца ўлікам і выкарыстаннем лясного фонду, развядзеннем лесу.
6. Рака, што бярэ пачатак з Валожыншчыны і цячэ праз Мінск.
7. Лепшыя, адборныя часці войска.
9. Невялікая кілбаска, якую ядуць у вараным выглядзе.
13. Від выяўленчага мастацтва, які перадае прадметы і з'явы навакольнага свету пры дапамозе фарбаў.
14. Адзінка часу ў 60 секунд.
15. На востраве Гуам робяць яго з каралаў.
16. Жывёліна, якая стала талісманам футбольнага клуба «Кёльн». Яго заўсёды называюць Хенэсам, і ўжо восьмы займае пасаду сімвала каманды.
19. Самы папулярны колер велікодных яек.
20. Тое, што з'яўляецца запаветнай марай і вычэрпваецца ёю самой, а не служыць сродкам для дасягнення чаго-небудзь.
21. Неабходныя маральныя якасці чалавека, а таксама ўсведамленне гэтых якасцяў.
23. Колькасць нечага, што змяшчаецца ў далоні са сціснутымі пальцамі.

## Адказы на крыжаванку з №16

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Фарба. 3. Ювелір. 5. Чаша. 8. Рагуля. 10. Дуплет. 11. Дыханне. 12. Фенікс. 13. Фасон. 15. Чарка. 17. Юрыст. 19. Чакаць. 22. Ментол. 23. Фільтр. 24. Румба. 25. Чыкага. 26. Рухавік.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Развага. 4. Юніёр. 6. Размова. 7. Шашлык. 9. Дрымота. 12. Фаланга. 14. Лён. 15. Чэрвень. 16. Сыр. 18. Тэмза. 20. Донар. 21. Сват. 27. Чытач. 28. Бяроза.



## ● ГАРАСКОП 26 КРАСАВІКА – 2 МАЯ

**АВЕН.** Цяпер вы можаце разварнуцца, праявіць актыўнасць у справах і здзейсніць усё, што планавалі раней.

**ЦЯЛЕЦ.** Час спрыяльны для тых, хто прывык дамагацца выніку, спадзеючыся толькі на сябе і сваю рашучасць. Смела ідзіце наперад, ніякія перашкоды не змогуць вас спыніць.

**БЛІЗНЯТЫ.** У вырашэнні любога пытання прыслухоўвайцеся да свайго сэрца, умейце пачуць, што «кажа» інтуіцыя, развівайце яе, і тады ў вас многія пытанні вырашацца самі па сабе. Вы не застанецеся без падтрымкі звыш, калі возьмецеся за сур'ёзныя рэчы.

**РАК.** Запомніце, наша здароўе залежыць ад таго, што «варыцца» ў нашай галаве.

**ЛЕЎ.** Вам, хутчэй за ўсё, захочацца пазбавіцца ад усяго таго, што аджыло, і пачаць жыццё нанова – усё ў вашых руках. Думайце пра ўсё добрае, і тады яно ўсё так і будзе.

**ДЗЕВА.** Вынік ад прынятых рашэнняў вы зможаце атрымаць пазней, але будзе ён добрым ці не, залежыць ад таго, як вы будзеце прымаць неабходныя рашэнні. Знайдзіце залатую сярэдзіну, ураўнуйце ўсе супрацьлегласці. Каб дасягнуць раўнаважкага стану, неабходна прыйсці да гармоніі ўнутры сябе.

**ШАЛІ.** Ваш добры настрой станоўча паўплывае на работу і ўсе справы. Вы, акрамя маральнага задавальнення, атрымаеце яшчэ і прыбытак. З'явіцца чалавек, які так даўно чакаў з вамі сустрэчы. Пагаджайцеся, новае знаёмства прынясе толькі радасць.

**СКАРПІЁН.** Добра цяпер правесці час з чалавекам, які будзе падзяляць вашыя пачуцці, погляды на свет. Але калі вы яшчэ не знайшлі такога спадарожніка жыцця, то прыйдзецца самастойна спраўляцца з эмацыйнымі праблемамі. Калі раптам пагоршыцца настрой і ўзнікне дэпрэсія на пустым месцы, то пабудзьце ў адзіноце, пачытайце любімую кнігу ці перагледзьце ўпадабаны фільм. Гэта пойдзе вам на карысць.

**СТРАЛЕЦ.** Ад вас запатрабуецца сур'ёзная і напружаная праца, каб чагосьці дасягнуць. Хоць вы і стоміцеся, але вынікі вельмі пацешаць. Увогуле, ва ўсіх спраў, пачатых цяпер, вельмі спрыяльная перспектыва. Смела бярыцеся за любое пачынанне.

**КАЗЯРОГ.** Часцей успамінайце пра дабрыню. Невялікая яе порцыя можа тварыць цуды з навакольнымі людзьмі. І патрабуе ад вас малых намаганняў. А яшчэ жыццё сумнае без мэты. Вырашыце, што важна для вас, і пабудуйце сваё жыццё вакол гэтага.

**ВАДАЛЕЙ.** Вам спадарожнічае поспех. Вы зможаце дасягнуць некаторага стану, які прынята называць шчасцем. Гэты час добра праводзіць у месцах, далёкіх ад дому, каб атрымаць новыя ўражанні, новыя веды і зведаць эмоцыі, якіх раней не зведалі.

**РЫБЫ.** Праца, якую трэба будзе рабіць, вам хутка абрыдне, і захочацца змяніць абстаноўку, прыўнесці ў жыццё нешта новае і лёгкае. І гэтаму быць. І вы будзеце адчуваць сябе максімальна радасна і камфортна.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | | | | 8 | 9 | | 5 | |
| 2 | | | 4 | | | 6 | | |
| | | 9 | 6 | 3 | | 7 | | |
| 8 | 2 | 1 | | | 5 | | 7 | |
| | | | 8 | | 7 | 1 | | |
| | 5 | | | | | 4 | | |
| | 9 | | 5 | | 3 | 8 | | |
| | | | 2 | | | | | 7 |
| | | | 9 | | | 3 | 1 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


## Чытайце праз тыдзень

- **У Маладзечне ў сярэдняй школе №11 зладзілі сацыяльны праект «30 добрых спраў». Падчас яго вучні 30 класаў школы прыдумалі, распрацавалі і рэалізавалі ўласныя праекты. Напрыклад, дапамаглі жывёлам, якія знаходзяцца на ператрымцы – сабралі каля 90 кілаграмаў корму для сабак і перадалі яго валанцёрам.**



## Збіраецеся на лецішча? Захапіце «Рэгіянальную газету»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем лiтару «Р», справа гартаем старонкi, пазначаныя сiнiм колерам. Пад iндэксам 632122 – «Рэгiянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## На месцы маладзечанскага парку больш за 50 гадоў таму была вёска

МАЛАДЗЕЧНА

**Краязнаўца з Маладзечна Уладзімір Садоўскі знайшоў амерыканскі спадарожнікавы здымак Маладзечна ад 22 мая 1966 года.**

– Нарэшце разабраўся і спампаваў гэта фота. Якасць не вельмі добрая, але нешта разабраць можна. Напрыклад, тое, што насып абхадной чыгуначнай веткі, якую праклалі ў 1944, яшчэ ёсць у цэнтры горада. Хаця з самой Цэнтральнай плошчы лінію прыбралі недзе напрыканцы 1950-х, – расказвае Садоўскі.

На тым жа здымку бачная вёска Бухаўшчына ў парку, рэшткі якой знеслі толькі перад Дажынкамі 2011 года. На месцы цяперашніх мікрараёнаў – ворныя землі.

Таксама на здымку бачныя:

- сучасны Вялікі Гасцінец у завершаным выглядзе, да вайны ўчастка ад цэнтральнай плошчы ў бок Мінска не існавала;
- перамычка паміж чыгуначнымі накірункамі на Вільню і на Ліду (злева у раёне Насілава, цяпер яе няма). Магчыма таксама з'явілася ў 1944 годзе, калі станцыю разбамбілі;
- зверху здымка – работы па выпрамленні рэчышча Ушы, прамы канал замест старых рачных петляў;
- шмат новых раёнаў індывідуальнай забудовы (раёны вуліц Чарняхоўскага, Каляднай, Чэхава, Лясной) і толькі першы мікрараён пяціпавярховікаў (Гасцінец ад 68 да 78 дамоў)
- няма аўтавакзала.

**Тацццяна КАСЬЯН.**

*Убачыць спадарожнікавы здымак можна, адсканаваўшы QR-код або перайшоўшы па спасылцы* ***bit.ly/mapamola.***



## 27 красавіка, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 3 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -2,6°C у 1988 годзе
Максімальная тэмпература +23,9°C у 2000 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 18,9 мм у 2001 годзе

Паводле meteoinfo.by.

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Як выбары прэзідэнта Украіны паўплываюць на Беларусь?



**Яўген Каросцік, працуе на мэблевай фабрыцы, Маладзечна:**

– Парашэнка вырашыў пытанне незалежнай царквы. Зневажальна, калі людзі не могуць свабодна трапіць у Італію, ім прапануюць Саратаў. Парашэнка і гэта пытанне вырашыў, а мы зайздросцім бязвізу. Украінцы абралі любімца расійскіх выбаршчыкаў.



**Аляксандр Літвін, аператар, Ашмяны:**

– Пазіцыя Беларусі ў адносінах з Расіяй аслабла. Раней Лукашэнка мог абаперціся на Парашэнку, цяпер пад нагамі пустата. Узрасла пагроза суверэнітэту Беларусі. Рэзка ў бок Еўропы Лукашэнка пайсці не можа, бо адразу пачнецца вайна. Парашэнка быў нашай апорай, а цяпер яе няма.



**Аляксандр Казакевіч, шынамантажнік, Маладзечна:**

– Наш прэзідэнт не любіць перамены. Пасля таго, як ён двойчы публічна паставіў на Парашэнку, думаю, нашы адносіны з Украінай стануць больш прахалоднымі, чым раней. Час пакажа.



**Вольга Бізукойць, выхавальніца, Ашмяны:**

– Лічу, што выбары на Украіне не паўплываюць на нашу краіну. Думаю, я пакінула б Парашэнку. Але не Зяленскага дакладна. Ён шоумэн, рэжысёр, акцёр, але не палітычны дзеяч, тым больш краіны, у якой ідуць ваенныя дзеянні.



**Юры Шыцік, працуе ў сферы гандлю, Маладзечна:**

– Не думаю, што перамога Зяленскага нейкім кардынальным чынам адаб'ецца на Беларусі. Лічу, будуць працягнутыя добрыя стасункі, маем шмат агульных праблем. Усё ж прагаласаваў бы за Парашэнку, пры ўсіх адмоўных баках ён больш прадказальны.



**Аляксандра Сахарэнка, студэнтка, Маладзечна:**

– Украіна – саюзнік і сябар, палітычная сітуацыя там не паходзіць міма. Думаю, будзем краінамі-саюзнікамі. Парашэнку давалі шанец праявіць сябе. Я аддала б голас за Зяленскага. Яго абраў народ, любім людзям патрэбны разважны лідар. Украіна яшчэ зажыве.



**Юлія Яраш, настаўнік-дэфектолаг, Маладзечна:**

– Перамога Зяленскага стала нечаканасцю для мяне. Чалавек, далёкі ад палітыкі, дамогся такіх поспехаў. І любы чалавек зможа дамагчыся вышынь. Пра перамены ў Беларусі цяжка казаць, яны непрадказальныя.

**Падрыхтавала Тацццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№17 (1252) 26.04.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 643. Падпісана ў друк у 9.00 25.04.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.